# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1968

Травень-Чэрвень

Год XVI

№ 3 (108)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1968 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**

**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**

**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

**ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:**

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE, HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

**УВАГА:** Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVI** **May-June** **№ 3 (108)**

**1968**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVI | ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ 1968 | № 3 (108)

## Рымскія звычаі ў час Вялікага Тыдня

Гук матораў, крык рэклямаў, сьпешка кожнага з нас глушаць Божы голас у сусьвеце. Няма калі затрымацца, падумаць. Усе кудысьці сьпяшаюцца . . .

Царква аднак не адказваецца ад сваей місіі, каб прыпамінаць усім людзям, усюды і ў кожным стагодзьдзі. Асабліва гэта яна робіць у часе вялікіх сьвятаў: у час посту і Пасхі.

Можа нідзе так моцна не адчуваецца Вялікі Тыдзень, як у Рыме — ў цэнтры хрысьціянства.



Папа Павал VI, не зважаючы на свой паважны век і нядаўна адбытую хваробу і апэрацыю, ня толькі прыймае актыўны ўдзел у набажэнствах, але ён ёсьць першы ў працэсіях і ў публічных малітвах.

Тут мы затрымаемся толькі над некаторымі мамэнтамі Вялікага Чацьвярга, Пятніцы і першага дня Вялікадня.

*

Вялікі Чацьвер — гэта памятны дзень, калі Хрыстос, перш чым прыняць крыж, «палюбіўшы сваіх, што на сьвеце, даканца ўзьлюбіў іх' (Ян 13, 1). Сабраў апосталаў у Сыёнскай сьвятліцы — перад сваей першай Літургіяй і абмыў ім ногі.

Эвангеліст Ян расказвае аб гэтым падрабязна (13, 3-5):

«Ісус . . . устаў ад стала, скінуў з Сябе верхнюю вопратку і, узяўшы ручнік, падперазаўся. Пасьля наліў вады ў умывальніцу і пачаў абмываць ногі вучням сваім і выціраць ручнікам, якім быў аперазаны. І падыходзіць да Сымона Пятра, і той кажа Яму: Госпадзе! ці-ж Табе абмываць мае ногі? . . .»

Абрад абмываньня быў ведамы на Ўсходзе, але спаўнялі яго звычайна слугі або нявольнікі. А Ісус споўніў яго як Госпад і Вучыцель, даючы прыклад вучням.

Гэты Хрыстовы абрад і прыклад Царква дасюль спаўняе год-у-год. У Усходняй Царкве, дзе ёсьць больш сьвятароў, калі дыякан чытае сьвятое Эвангельле, біскуп абмывае ногі 12-ці сьвятарам.

А ў лацінскім абрадзе звычайна біскуп абмывае ногі 12-ці жэбракам або старым з прытулку.

Павал VI ў базыліцы сьвятога Яна Апостала абмыў ногі сёлета 12-ці студэнтам з Папскае калегіі Прапаганды. Гэтыя сэмінарысты былі выбраныя з пасярод розных расаў і нацыяў.

*

Абрад умываньня ног заўсёды робіць вялікае ўражаньне на прысутных. Ён жыва і канкрэтна вучыць нас, як патрэба выконваць найбольшае прыказаньне любові Бога і бліж-

няга. Ужо сьвяты Павал напамінаў добрым удовам, каб была «дазнаная з добрых учынкаў, ці дзяцей узгадавала, ці прымала падарожных, ці ўмывала ногі . . .?» (І Цімафея, 5, 10).

Гэты абрад пасьля перайшоў у цэрквы і саборы. Успамінаюць аб ім сьвятыя Айцы Царквы Амброжы і Аўгустын. І абрад умываньня ног асабліва выявіўся ў царкоўным мастацтве (у скульптуры і малюнках) на Ўсходзе і на Захадзе.

Хто сам выконваў гэты абрад, а нават калі быў толькі сьведкам, кожны мусіў адчуць сілу слоў Хрыста: «Я даў вам прыклад, каб, як Я зрабіў вам, рабілі і вы» (Ян 13, 15) і ў вершы 34-ым: «Даю вам новае прыказаньне, каб любілі адзін аднаго. Як Я палюбіў вас, так і вы любеце адзін аднаго».

*

Вялікая Пятніца прысьвячана разважаньню Хрыстовых мукаў. Дзеля таго што крыж быў самым страшным прыладзьдзем Хрыстовай пакуты, дык у нашых уласных крыжохпакуце мы здабываем Хрыстовыя ласкі і адпушчэньне грахоў, дый у заслугах Хрыста стаёмся Божымі дзецьмі. Затое Хрыстоваму крыжу аддаецца чэсьць і пашана.

У лацінскім абрадзе існуе цэрэмонія ведамая як адарацыя крыжа, а ўва ўсходнім абрадзе ў Вялікі Чацьвер вечарам чытаецца 12 Эвангельляў аб Хрыстовых муках.

У Рыме існуе прыгожы звычай, што вечарам у Вялікую Пятніцу адбываецца публічная працэсія, так званая «Крыжовая Дарога». Пачынаецца яна ў старадаўным Калізэі, у якім даўней мучылі хрысьціянаў. З калізэю працэсія ідзе ў горад і канчаецца на ўзгорку ля даўнейшай паганскай сьвятыні.

Крыжовая Дарога — гэта працэсія ў малітвах, песьнях і разважаньнях аб важнейшых мамэнтах той крывавай дарогі, якую адбыў Хрыстос, нясучы на сваіх плячах дрэва крыжа, да якога пасьля быў прыбіты.

*

Пэўна, што аўтэнтычная дарога крыжа існуе толькі ў Еразоліме, дзе сам Хрыстос асьвяціў яе сваім потам і крывёю — аж смаглая зямля зрасілася, абмылася і насыцілася ею! Аднак і ў Рыме, сярод рэшткаў даўнейшай гордай сталіцы сьвету, дзе да 313 году крыжавалі хрысьціянаў або кідалі іх на арэну дзікім згаладжаным зьвярам, на фоне калізэю, аркі Канстантына, побач Форум Романум, калі ў працэсіі ідуць за Хрыстовым крыжам тысячы вернікаў з малітваю на вуснах, тады усе адчуваюць, што быццам жывы Хрыстос праходзіць між народу.



Кожная станцыя дарогі прыпамінае іншы мамэнт Хрыстовай пілігрымкі: найперш успамінаем, як асуджаны Хрыстос бярэ на Сябе цяжар крыжа; далей бачым Яго, як упаў пад цяжарам дрэва, як спатыкае Сваю Матку і плачучых жанчынаў, як разьдзяваюць Яго на гарэ і прыбіваюць да крыжа, на якім з поўнай сьведамасьцю памірае.

Затрымаемся крыху даўжэй пры станцыі XI-ай!

«Ісус прыбіты да крыжа.
Прабіваюць Яму рукі.
Праколваюць Яму ногі.

Таму, хто ёсьць валадаром майго прызначэньня.

Анёл прыкрыў усю саромнасьць: больш не бачу нічога іншага як толькі ягоны боль.

«Крыж, які Ён узьняў гэтак высока, Яго падыміць яшчэ вышэй.

«Яго расьцягваюць. Яму ўбіваюць цьвікі Цяжкаважны молат кладзецца на цьвікі. Цьвікі ўпіваюцца ў жылы, у жывое цела. Праз цела цьвік лезе ў дрэва. Разам зь ім цела і косьці лезуць у дрэва. Кроў пырскае з рукі. І так з другой рукой . . . Паднялі крыж. Зрушыліся ад сьмяротнага болю суставы. Паvіс чалавек, Бог». (Разважаньні Г. Геона).

Павал VI-ы, з волі Хрыста Ягоны Вікары на зямлі, нёс крыж — сымбаль цярпеньняў усяго сьвету, але і знак перамогі!

*

Скончылася жудасная Вялікая Пятніца: Хрыстос ляжаў у гробе, а дзьверы гробу былі прывалены вялізным каменем. Камень быў запячатаны і гроб сьцерагла стража.

Але трэцяга дня Хрыстос у в а с к р о с — перайшоў «ад сьмерці да жыцьця»!

Неспадзяваная вестка маланкай абляцела заспаную Еразоліму!

Зьбянтэжыліся фарызэі і сьвятары. Дый ці толькі яны?

Ці-ж хто калі чуў, што чалавек, — замучаны і памёршы на вачах вялікага натоўпу, паложаны ў гробе, закрыты каменем-скалой, — сам адваліў камень, паламаўшы пячаці, разагнаў стражу і выйшаў жывы, зь мёртвых устаў — **Уваскрос?!**

Калі адазваліся званы Вечнага Гораду і абʼявілі радаснае «Альлелюя!» і калі да грамадаў — тысячаў вернікаў-прамаўляў Павал VI-ы, мы мелі ўражаньне, што гэта сьвяты Пётр прамаўляе ў Ерузаліме да сабранага народу.

«Уваскрасеньне Хрыста і нашае — жадаем вам прыпомніць — ёсьць здарэньням магутнасьці, больш таго — усёмагутнасьці Божае! Тут недастаткова ўпрагчы ўсе прыродныя сілы і падаць прыродныя прычыны, каб яго выясьніць.

Сьмерць ёсьць такой сілай і валадарыць так страшэнна, што выглядае недарэчнасьцю думаць аб перамозе над ёй. Аднак гэта зьдзейсьнілася ў Хрыста: памёр, пахаваны і пасьля трэцяга дня ўваскрос і ёсьць слаўны...

«Уплыў дзіўны але сапраўдны гэтага здарэньня можа праявіцца і ў сучасным зьняверанным сьвеце. Можа быць там перамога, дзе здаецца ўсё скончана. Надзея на лепшае можа адрадзіць гісторыю чалавека...»

Так гаварыў Папа Павал VI, а гэтыя словы чуў і пасылае суродзічам, разам з сваім прывітаньнем...

Прысутны там Ч. С.

*а. А. Надсон*

# Заходняя літаратура на Беларусі ў XV-XVII стаг.

(Пачатак глядзі «Божым Шляхам» № 1, 1968).

У палове 16-га стаг. Польшча сталася важным пасярэднікам у перадачы заходняй літаратуры на Беларусь. Многія заходнія творы перш тлумачыліся на польскую мову, а тады з польскай на беларускую. Адным з такіх твораў былі «Рымскія Дзеі». Гэта быў збор кароткіх апавяданьняў маральнага характару, узятых быццам з рымскай гісторыі, якія аднак у сапраўднасьці, акрамя назоваў і імёнаў герояў, мелі вельмі мала супольнага з ею. Пачатак твору трэба шукаць у кнізе гішпанскага сьвятара Пятра Альфонса „Disciplina Clericalis“, якая паявілася ў 12-ым стагодзьдзі. У 13-тым стаг. кніга атрымала свой канчатковы назоў „Gesta Romanorum“ і сталася вельмі папулярнай у ўсёй Заходняй Эўропе, асабліва ў Англіі. Польскае тлумачэньне зьявілася друкам у 1553 г. і да яго была далучаная «Гісторыя аб Апалёне каралю Тырскім». Гэта была грэцкая аповесьць з 3-га стаг., арыгінал якой загінуў і якая была ведамая ў Заходняй Эўропе з лацінскага тлумачэньня зробленага ў 6-ым стаг. У часе Рэнэсансу зацікаўленьне гэтай аповесьцю зноў ажыло. У 1457 г. быў зроблены чэскі пераклад, які паслужыў прыкладам для польскага. Героем аповесьці ёсьць Апалён кароль тырскі, які разгадаў грэшны сакрэт магутнага караля Антыёха і быў змушаны ўцякаць ад гневу гэтага апошняга. Ён пацярпеў шмат няшчасьцяў, сярод якіх самымі большымі былі страта жонкі і дачкі. Наканец аднак ён знайшоў іх жывых у амаль цудоўны спосаб, а таксама атрымаў назад сваё каралеўства разам з каралеўствам свайго ворага Антыёха. Вывад повесьці ясны: цнота заўсёды атрымоўвае сваю нагароду.

Беларускі тэкст «Рымскіх дзеяў» зьяўляецца тлумачэньнем з польскага выданьня 1553 г., хоць гісторыя аб Апалёне крыху розьніцца ад польскай вэрсіі.[17] Абодва творы былі пры-

[17] Тэкст быў выданы ў кнізе: Римские деяния, изд. Общества любителей древней писменности, СПБ. 1877-78.

Аповесьць аб Апалёне носіць наступны загаловак: «История о Апполоне короле тирском и о Тарсе королевне приклад что печаль переменяется в радость».

Выданьне зробленае з рукапісу з 1688 году, знойдзенага ў Магілёве.

значаньня для рэлігійна-маральнага чытаньня. Мова іх ёсьць вельмі блізкая да царкоўна-славянскай толькі з некаторымі беларускімі асаблівасьцямі. Вось для прыкладу апісаньне морскай буры, у часе якой загінуў карабель Апалёна:

«... Апполон велел приправить корабель, хотяще плыть до пентаполя, и всяде в него и дался ветром, а как уже десять дней плыл по морю, поветріе же ему пременилось против полуденному ветру, и воста с полунощи ветр ... волны взяли корабль на себе и начаша им яко пилою метати, едина волна до другой подаваючи его, дондеже некоторая ина болшая волна припадше поднесла и подняла корабль на себе и разорвала его, так что ни едина доска со другою не осталась, сребро же и злато летело на дно моря, ризы и иныя приправы другія по морю поплыли, и людіе все потопоша. Тогда Апполон ухватил доску, нача держатися ея и плыл на ней целыя три дни и три нощи. В четвертыи же день увидел некоторого рыбника, а он ловит рыбу, и нача к нему вопити, глаголя: О человече приближися ко мне, и даи живот утопающему и помози утрудившемуся».

Пад канец кнігі апісваецца спатканьне Апалёна з дачкой Тарсіяй. Апалён, які думаў што Тарсія даўно ня жыве, не пазнае яе. Тарсія таксама не пазнае свайго бацькі. Яна просіць Апалёна адгадаць некалькі загадак. Вось адна з іх:

«Рекла Тарсія: что есть сей дом: сіе есть дом в ризах не убогій, гости и господарь в нем нагіи и тамо вещ в руце держит, а встыду не умеют. Огонь и воду в нем продают, а у них то даром дают. Отповедал ей Апполон: дом есть лазня, сіи есть баня, в ризах не убогій, а в нем гости и господарь бывают нагіи, вещ есть веник ...»

Выглядае непраўдападобным, каб грэкі парыліся ў лазьні з венікамі! Тут напэўна беларускі перакладчык уставіў нешта сваё.

Другая аповесьць, пертлумачаная з польскай мовы на беларускую, была «Исторыя о Атыли короли угорском». Аўтарам гэтай кнігі, напісанай у лацінскай мове, быў прымат Вугоршчыны Мікола Олях, архіепіскап Стрыгонскі, ведамы гуманіст і прыяцель Эразма Роттэрдамскага. Польскае тлумачэньне, зробленае Цыпрыянам Базылікам, паявілася ў 1574 г. і было ператалумачанае на беларускую мову хутка пасьля гэтага. Аўтар «Гісторыі аб Атылі» меў на ўвеце напісаць гістарычны твор, але гэта яму не ўдалося. У сапраўнасьці ягоная кніга — гэта гістарычны раман, дзе сапраўдныя факты пераплятаюцца з легендамі і выдуманымі выдарэньнямі. У прыватнасьці тут пераплеценыя легенды заходнеэўрапэйскія, якія прадстаўляюць Атылю як ворага і мучыцеля Царквы, і германска-гунскія, якія стараюцца зрабіць з Атылі героя, прычым гуны тут утоежсамліваюцца з вугорцамі. Да стварэньня геройскага вобразу Атылі дапамагла легенда, быццам ён у сваім паходзе на Эўропу выконаў пэўную, даную яму ад Бога, місію. У Францыі Атыля спаткаў аднаго пустэльніка, які яму сказаў:

«... Ведай о том, иж Бог будучы злостями люду своего раздражненыи, которы видечы иж от справедливости и от правдивое веры до непобожности ся наклонили пыхою ... хотечы их до скромности, покоры, мерности, справедливости, милости сполнои а до сполного покою ... и до справедливого жывота за твоим побуждением прывести — меч свои тепер в руки твои дал, бо ты есть бич божыи на каране выступков люду хрестянского посланы».

Атылі гэтага толькі было трэба і ён быў рады выконваць ролю «біча божага». Не заўсёды гэта аднак яму ўдавалася і часам ласкавасьць і пакора добрых пастыраў Царквы перамагалі ягоную лютасьць. Такім чынам, калі Атыля прыбліжыўся да гораду Труа·

«... тых тэды Трэков албо Троеи бискуп, што его звано Люпус, то ест волк, человек святобливого жывота, убравшы ся ув-оденье бискупе, з множеством духовных особ вышол против Атыли прыежджаючому. Тот учынившы прыстоиное поздровене пытал Атыли, што бы был зач, иж так много королев звытяжывшы, народы и люди поразившы, места збурывшы все моцью под свою моц подбивает. Которому Атыля отказал: Я естэм король угорскии, бич божыи, которых слов Люпус улекнувшы ся рекл: А хто ся бичови Бога моего опреть, абы ся над кождым, над ким хочеть, гневити не мел? Под же тэды, як поведаеш, бичу Бога моего, едь где хочеш, все тобе яко слузе божому, чому ся я зборонити не буду, послушно будеть. Казал потом брамы местские отворыть а Атыли держечы под ним коня за повсды з великои учтивостю впровадил, которыи албо поволностю а укладностю оного бискупа будучы звитяжоныи, або тэж з воли божое не учынившы жадное шкоды и крывды никому, зо всими воиски своими через место едучы другою броною з места выехал».

У падобны спосаб Атыля паслухаў намоваў папы рымскага сьв. Льва Вялікага, які выйшаў яму насустрач і прасіў ня браць і не бурыць Рыму. Расказ аб гэтым здарэньні канчаецца такім чынам:

«Оттуль же уросла была кунштливая прыповесть у его жолнеров, иже Атыля большеи ся боить диких зверат самых толко прозвищ, нижли зброиного воиска ,поневаж у Франциы над волком, а в Влохах над ильвом не ужывал своего панованя».

Мова «Гісторыі аб Атылі» ёсьць перапоўненая палянізмамі. Гэтага ня можна сказаць аб двух іншых творах з таго самага часу — гісторыях аб Трыстане і Ізольдзе і аб Баве. Гэтыя два сярэднявяковыя творы належаць да разраду любоўна - рыцарскіх раманаў і яны былі шырока ведамыя ува ўсей Заходняй Эўропе. Ведамыя яны былі таксама і ў Італіі, адкуль трапілі ў канцы 15-га ці ў пачатку 16-га стаг. у Сэрбію. Беларускія тлумачэньні былі зробленыя з сэрбскіх тэкстаў, якія цяпер загінулі.

Аповесьць аб Трыстане і Ізольдзе ёсьць цэльтыцкага паходжаньня, але канчатковае літаратурнае апрацаваньне атрымала яна ў Францыі ў палове 12-га стагодзьдзя. Галоўнай тэмай яе ёсьць трагічнае каханьне, мацнейшае за іх саміх, між рыцарам Трыстанам (па беларуску Трышчан) і «краснай Іжотай», жонкай караля карнвальскага Марка, дзядзькі Трыстана. Сярэднявяковы аўтар здаваў сабе добра справу з далікатнасьці палажаньня ягоных герояў і таму ён пастараўся даць высьненьне, якое, паводле яго, задавальняла-б пытаньні маральнага парадку, а менавіта што каханьне між Трыстанам і Ізольдай нарадзілася не з іхняй віны, а таму што аднойчы яны незнарок выпілі «милостного питя», думаючы, што гэта звычайнае віно, і пасьля гэтага «еще не допившы кубков впали межы собою у великую милость, аж и до жывота своего один другого не оставил».

Наагул у аповесьці аб Трыстане і Ізольдзе зьвяртаецца больш увагу на каханьне чым на рыцарскія справы. Аднак і каханьне не трактуецца вельмі сур'ёзна, як можна бачыць хоць-бы з інцыдэнту з каралём Маркам, які прайграў у шахматы сваю жонку Ізольду рыцару Палмідзежу, які таксама яе кахаў:

«Король Марко исполнил сердцэ веселем и велел прынести шахы, рек Палмидежу, абы играл с им. А коли сели играти, рек король Палмидежу: Так ти я говору, рыцэру, што нихто ся мне не противит в шахы играти. Рек Палмидеж: я вем королю, што если пан хитры, але коли хочеш играти о тое, которыи с нас выиграет, по што ся его рука хватит, нехаи собе озмет. И на то оба прызволили, и выиграл Палмидеж и рек: Королю Марко корновальскии, ты-с рек, хто-бы вам поведал о животе девки Брагини, по што бы того рука сягнула, то нехаи возме; а еще еси рек, хто бы з нас кого в шахы поиграл, за што се рука его хватит, нехаи озметь. Даи мне красную Ижоту, а я тобе дам девку Брагиню! . . . Король Марко, велми был весел и рек одноп девце: Поиди, мов Ижоте: Нарежаи ся, поехати маеш з Палмидежом . . . А так прышла цудная Ижота пред короля, и рек корол Марко: Рыцэру, ото-ж ти паня».

Аповесьць аб Баве, якая напэўна паўстала недзе на гранічных землях між Францыяй і Нямеччынай, носіць крыху іншы, больш рыцарскі характар. Пачынаецца яна такім чынам:

«Яко писмо говорыт: добрыи мужу, Бог ти будь на помоч и вховаи тя от смерти и от злое прыгоды! Хочу вам поведати добрую повесть о Кгвидоне антонском княжати и о его сыне, о великом и славном рыцэру Бове. Тот Кгвидон храбры конник был, але одну рэч зле вчынил, иж вчас жоны не понял, а коли вже стар был, тогды понял жону з великого племени, и она его не мела ни за один пенез».

З гэтага неразумнага сужэнства нарадзіўся сын Бава. Але маладая жонка ўзьненавідзела мужа і забіла яго з дапамогай свайго любоўніка. Яна хацела забіць таксама свайго сына Баву, але той у свой час уцёк. Далей ужо у расказе гаворыцца аб прыгодах Бавы: як ён папаў у палон і быў праданы каралю Арменіду, а пасьля, стаўшыся вольным, ажаніўся з каралеўскай дачкой Дружненай; як лёс іх пасьля разлучыў і як пасьля шматлікіх прыгод Бава наканец здабыў назад для сябе каралеўства свайго бацькі і шчасьліва знайшоў зноў Дружнену з сынамі. Аповесьць перапоўненая апісаньнямі геройских учынкаў і бітваў. Вось для прыкладу апісаньне бітвы між Бавой і Пулканам:

«А Пулкан прыскочыл и кинул на него одну жэрдь, и коли-б Бово щытом не заложыл ся, на том же бы местцу его пробил . . . И почали битися копьями; Пулкан вдарыл Бова по гелму, гелм был моцон, пробити не мог, а Бово прыгнулся на седелныи лук; и велми смутен был Бово, не мог Пулкана ударыти никакож, и скинул копе и скочыл с коня и вскинул узду на седло, а щыт обернул на плечы, и взял меч в обе руцэ, внимал вдарыти Пулкана и прыскочы к нему, а Пулкан скочыл через меч, а меч ся в землю забил, а Бово мало не здох от жалости, а Пулкан дал ему один удар в щыт. Велик был удар, што Пулкан учынил, от того удару Бово упал на колени, весь изблед и рече: Аи Боже створытелю небескии, уховаи мя, пане, от смерти».

Ужо з гэтага вынятку відаць, чаму аповесьць аб Баве цешылася посьпехам сярод сярэднявяковых любіцеляў прыгодніцкіх раманаў. Між іншым гэты твор (але не аповесьці аб Трыстане і аб Атылі) быў шырока ведамы таксама у Маскоўшчыне. Раней уважалася, што беларускія і маскоўсая вэрсіі былі незалежнымі адна ад другой, хоць і паходзілі з тых самых крыніцаў. Не так даўно аднак была высказаная думка, што магчыма аповесьць аб Баве была ведамая на Беларусі раней, можа нават у 15-тым стагодзьдзі, і адтуль у форме вуснага пераказу трапіла ў Маскву.[18]

Рукапіс з беларускімі тэкстамі гісторыі аб Атылі і повесьцяў аб Трыстане і Ізольдзе і аб Баве[19] належаў у 1590-тых гадах беларускаму шляхціцу з Наваградзкага павету Рыгору Уніхоўскаму, прыяцелю беларускага пісьменьніка Тодара Еўлашэўскага, які успамінае яго у сваім «Дзёньніку». Творы гэтыя ёсьць цікавыя тым, што ў іх асаблівасьці беларускай мовы выступаюць больш ярка і выразна, чым у іншых памятніках беларускага пісьменства таго часу.[20]

Повесьці аб Трыстане і Ізольдзе і аб Баве ўводзілі беларускага чытача ў няведамы яму рыцаркі сьвет сярэднявяковай заходняй Эўропы. Найбольш распаўсюджаным аднак прыгодніцкім раманам была «Александрыя» або фантастычнае апавяданьне аб паходзе Аляксандра Македонскага на таямнічы ўсход. Беларусы пазнаёміліся ўпяршыню з жыцьцём Аляксандра Македонскага яшчэ ў 1-тым стагодзьдзі з славянскага тэксту грэцкай Хронікі Івана Малалы. Іншыя тлумачэньні пяявіліся пасьля ,але найбольш распаўсюджанымі ў 16-17-тым стаг. былі тлумачэньні заходнеэўрапэйскага лацінскага твору „De proeliis“, які трапіў на Беларусь цераз Польшчу.[21] Іншым шырока ведамым творам была аповесьць аб Траянскай вайне, аб якой таксама беларусы даведаліся першы раз у 11-тым стаг. з той-жа Хронікі Малалы. У 12-13 стаг. паявілася ў заходняй Эўропе некалькі твораў на гэтую тэму, сярод іх „Roman de Troie“ француза Benoit Saint-Maure, і „De Bello Troiano“ сыцылійца Guido de Columna. Аўтары гэтых твораў, асабліва апошні, паставілі сабе за мэту раскрыць праўду аб Траянскай вайне, быццам сфальшаваную Гомэрам! У сапраўднасьці-ж кніга Гвідо дэ Колюмна, напісаная ў палове 13--га стаг., у часе крыжовых паходаў і Лацінскага Канстантынопальскага каралеўства, належыць да тыпу заходніх рыцарскіх раманаў, хоць і ягоныя героі носяць грэцкія імёны.[22]

Ужо ў пачатку 16-га стагодзьзя «Александрыя» і «Аповесьць аб Троі» былі настолькі ведамыя на Беларусі, што Францішак Скарына ўспомніў іх у сваей прадмове да Бібліі:

«Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев; более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи».

Іншым доказам папулярнасьці «Александрыі» ёсьць тое, што бітва Аляксандра Македонскага з індзейскім царом Порам сталася адной з сцэнаў беларускай Батлейкі. Сцэна мела камічны характар: Аляксандар — які між іншым ператварыўся ў хрысьціянскага цара — ехаў на бітву на сваім кані, а бедны Пор быў змушаны пазычыць сабе каня ў цыгана![23]

Заходнія рэлігійныя творы ў беларускай мове насілі выразны каталіцкі характар і ў пэўным сэнсе былі чужыя для праваслаўнай мэнтальнасьці большай часткі беларускіх чытачоў. Таксама сьвецкія творы адкрывалі перад вочамі беларуса няведамы яму сьвет

---

[18] Гл. М. К. Дабрынін, Беларуская літаратура. Старажытны перыяд. Мінск 1952, бб. 252-253.

[19] Тэксты ўсіх гэтых твораў разам з зьместоўным ўступам глядзі ў: А. Н. Веселовский, Белорусские повести о Тристане, Бове и Атилле в Познанской рукописи. Из Истории романа и повести. Сборник Отдела Русского Языка и Словесности Имп. АН, том 44, кн. 2, СПб. 1888.

Аповесьці аб Трыстане і Баве маюць агульны загаловак: «Почынается повесть о витезех с книг сэрбских, а звлашча о славном рыцэры Трысчане, о Анцалоте и о Бове и о иншых витезех добрых».

Аповесьці аб Баве маюць яшчэ свой асобны назоў «Историа о княжати Кгвидоне».

Аповесьць аб Атылі называецца: «Исторыя о Атыли короли угорском».

[20] Дакладны разбор мовы твораў глядзі у:
A. Brückmer, Ein weissrussischer Codex miscellaneus in Gräflich Raczynskischen Bibliothek in Posen. Archiv für Slavische Philologie, Band 9, Berlin 1886, S. 345-139.

Між іншым вось што піша аўтар аб мове гэтых твораў:

„Wäre dies überhaupt nöthig, so könnte man auf Grund dieses Denkmals allein die Selbständigkeit des Weissrussichen ewidnet nachweisen“ (Ibid. S. 346).

(Калі-б гэта было наагул патрэбным, дык на аснове аднаго гэтага помніка можна было-б даказаць ясна самастойнасьць беларускай мовы).

[21] Апошняе найбольш поўнае выданьне беларускіх тэкстаў «Александрыі» глядзі у: Александрыя, выд. Акадэміі Навук БССР, Мінск 1962.

[22] Тэкст кароткай рэдакцыі гісторыі Траянскай вайны глядзі у: А. Ф. Коршунаў, Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, Мінск 1959, бб. 446-454.

[23] Гл. Г. 17 Барышаў і А. К. Саннікаў, Беларускі народны тэатр Батлейка, Мінск 1962, бб. 35-38 і 97-98.

заходняга рыцарскага сярэднявякоўя. Як адны, так і другія бяз сумніву спрычыніліся да зьмяшаньня і спалучэньня заходніх і ўсходніх элемэнтаў, якія спатыкаюцца ў усіх праявах культурнага жыцьця на Беларусі у 15-17 стагодзьдзях. Далейшае вывучэньне культурных зносінаў між Захадам і Беларусяй у тым часе можа дапамагчы зразумець шмат зьяваў, якія да гэтага часу астаюцца няяснымі. Хто ведае, можа яно кіне больш сьвятла на цікавую, але загадкавую, асобу Францішка Скарыны?

Канец.

*Юрка Віцьбіч*

# Чаму ацалеў Новы касьцёл

*«Созда в нем столп камен высотою 17 сажней. Подобен удивлению всем зрящим на нь».*

Гусьцінскі летапіс 1288 г. аб Камянецкай Белай вежы.

У № 103 «Божым Шляхам» выказаны жаль з тае прычыны, што літаратар Кастусь Рамановіч у сваім радыё скрыпце, прысьвечаным 900-годзьдзю Менска амінуў сумны лёс ягоных цэркваў і касьцёлаў. Не падлягае сумлеву, што гэты агрэх тлумачыцца вылучна памерамі скрыпту, а таму й паспрабую выправіць мімавольны недасказ паважанага аўтара. Таксама-ж, хоць і зь вялікім спазьненьнем, спадзяюся належным чынам затрымацца на тамтэйшых ганебных спробах зьнішчыць Менскі Новы касьцёл, аб чым у артыкуле «На Бларусі разбураюцца гістарычныя помнікі», зьмешчаным у сваім № 611 за 1963 г. абуралася добрая «Бацькаўшчына».

Калісьці Менск упрыгожвала сабой ды самым сваім назовам Высокае Места, перайменаванае цяпер у абавязковую для ўсіх савецкіх гарадоў плошчу Свабоды. На ім узвышаліся ратуша й катэдры — Марыінская каталіцкая й Пятрапаўлаўская праваслаўная. Перабудаваная й перайначаная ў 1850 г. ва ймя Апосталаў Пётры й Паўла, катэдра, у якой знаходзіўся патрон гораду, што меўся й на ягоным гэрбе — цудадзейны абраз Багамаці Менскай, была бальшавікамі ў 1936 г. падарваная аманалам. Пазьней штогод улетку ейны пляц скарыстоўваўся імі пад вандроўныя зьвярынцы. Катэдра ва ймя Ўнебаўзяцьця Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, пабудаваная ў 1710 г. езувітамі, яшчэ ў 30-х гадох пературарылася ў аўтагараж, за часы Другой сусьветнай вайны яна цудам ацалела паміж суцэльнымі крушнямі, але ў 1953 г. бальшавікі перарабілі яе ў Дом фізкультуры «Спартак». Яны зьнішчылі ейныя барокавыя званіцы, сапсулі вытрыманы ў гарманійных прапорцыях франтон і, як адзначыла газэта «Літаратура і мастацтва», той пасьля гэткае іхняе перабудовы «прыйняў пачварныя формы». А ў сярэдзіне, дзе раней беларусы каталікі ўслаўлялі мошчы сьвятога Фэліцыяна, дасланыя ім Папай Піем Шостым, цяпер месьцяцца спартовыя залі — гімнастыкі, боксу й цяжкой атлетыкі.

Мураваная ратуша з гадзіньнікам за часы вайны выгарэла і па ёй яе не аднавілі, а зруйнавалі дарэшты. Затое, што характэрна, аднавілі паблізу ад Круглай плошчы згарэлую хату, ў якой у 1898 г. адбыўся першы з'езд РСДРП. Ня менш паказальна, што дбайна ахоўваецца шырака вядомы ў народзе «Пішчалінскі замак», абгароджаны высокім мурам з вежамі па рагох ды з кратамі ў вокнах, які ў 1825 г. архітэктар Пішчала адмыслова пабудаваў пад турму і потым яна перайшла ў спадчыну ад жандараў да чакістых, ад царскай да савецкай Расеі. Усё гэтае зразумела, калі ўзяць пад увагу сымбалічныя пачатак і канец дванаццацікілямэтровай магістралі сталіцы БССР сучаснага Менску — Ленінскага праспэкту, які зьяўляецца на ўсходзе працягам Маскоўскай шашы, а на сваім захадзе пераходзіць у Маскоўскую вуліцу.

Бадай аднача́сна з Пятрапаўлаўскай катэдрай былі падарваныя цэрквы абразу Богамаці Казанскай або «Чыгуначная» і Архіярэйская. На мейсцы першай узьнікнуў сквэр імя наркома Кліма Варашылава, а другой — Дом чырвонай арміі. Яшчэ да вайны бальшавікі цудоўны па сваёй архітэктуры касьцёл сьвятога Роха, што на Залатой Горцы, спачатку засланілі ад савецкай вуліцы Домам спэцыялістых, потым прыстасавалі пад архіў, а ў пачатку вайны, выконваючы загад Сталіна аб «голай зямлі», зруйнавалі яго. Сьвята-Спаскую царкву на Прэабражэнскай вуліцы, у якой пад час вайны адпраўлялася архіярэйская Божая Служба, у 1954 г. разбу-

рылі, каб за ейны кошт пашырыць суседні кінатэатр «Перамога». Да 1948 г. на рагу Пятрапаўлаўскай і Крашчэнскай вуліцаў, дзе цяпер сквэр, перахоўваліся муры й склеп Дамініканскага касьцёлу, пабудаванага ў другой палове 16-га стагодзьдзя. У народзе існавала паданьне, што адсюль да Кальварыйскага касьцёлу меўся лёх, у якім у нязабытным 1863 г. хаваліся апошнія гераічныя паўстанцы. Тая-ж сумная акалічнасьць што пад дзяржаўную ахову ўзята толькі паўсталая ў 1830-м годзе брама Кальварыйскага могільніку, закладзенага яшчэ ў 18-м стагодзьдзі, а ня старажытні касьцёл на ім, пабудаваны ў 1673 г. сьведчыць аб ягоным зьнішчэньні па вайне. Пры тым няма ведама дзе зьнікнуў і высокамастацкі аўтарны абраз Хрыста Збаўцы працы слаўнага мастака І. Дацеля, якога паводля ягонае просьбы, пахавалі ў Кальварыйскім касьцёле пад аўтаром.

І нарэшце, калі ў 1945—51 гг. архэалёгі адкапалі на Менскім Замчышчы ля ўтокаў Нямігі ў Сьвіслач, рэшткі найстаражытнай царквы 12-га стагодзьдзя, дык гарсавет загадаў спыніць далейшыя навуковыя дасьледваньні і закапаць раскопкі, каб пабудаваць тут, на новай Паркавай магістралі, Палац спорту з арэнай ды з трыбунамі — архітэктурны двайнік нязграбнага павільёну СССР на ЭКСПО-67 у Монтрэалю. Між тым, паводля прышушчэньняў навукоўцаў, гэтую царкву, што зьяўлялася сэрцам старадаўняга «Мэнеска», пабудаваў сын вялікага Полацкага князя Ўсяслава першы Менскі князь Глеб (1101—1119), аб чым сьветчыць ягоны гэрб на некаторых цаглінах — двохзубец з крыжыкам, а зруйнаваў у 1119 г. Кіеўскі князь Уладзімер Манамах. І акурат там, дзе знаходзіўся ейны ацалелы сьвяты падмурак з князёўскімі пахаваньнямі месьцяцца цяпер у сутарэньні Палаца спорту разьдзявалкі, буфэт і прыбіральні.

Захавалася пабудаваная ў 1611 г. на Ракаўская вуліцы Нізкага Рынку або Старога Места Пятрапаўлаўская катэдра, перайменаваная пазьней царыцай Кацярынай Другой у Кацярыніскую і вядомая ў народзе пад назовам — Жоўтай. У часе вайны ў ёй адбываліся набажэнствы, а цяпер зьмяшчаецца архіў. Таксама ацалела на вуліцы Бакуніна, што йдзе ад Высокага Места да зьнішчанага Замчышча, прыгожая барокавая Сьвята-Духаўская царква, у якой па вайне адпраўляецца архіярэйская Божая Служба й яна, параўнальна вялікая сваім памерам, ня ў стане зьмясьціць усіх вернікаў, што прыходзяць сюды ўшанаваць абраз Богамаці Менскай, які цяпер знаходзіцца тут. Пабудаваная ў 1793 г. для Бэрнардынскага жаночага кляштару, Сьвята-Духаўская царква знайшла адбітак на сучасных гравюрах А. Зайцава й Н. Паплаўскай, на малюнках Б. Малкіна й П. Дучына, пад аднолькавым назовам «Стары Мінск».

Доўгі час, паводле газэты «Літаратура і мастацтва», вырашаўся лёс касьцёлу на цяперашнім Ленінскім праспэкце. Пабудаваны ў пачатку нашага стагодзьдзя абшарнікам Вайніловічам ва ймя сьвятых Сымона й Гэлены з ружовае цэглы, прывезенае зь Нямеччыны, ён стаўся больш вядомы мянчанам пад назовам — Новы. Знаходзячыся паблізу ад Дому ўраду, гэты касьцёл, відаць, адчуваўся бальшавікамі, як бяльмо на воку. У 30-х гадох яны прыстасавалі яго спачатку пад Тэатр Юнага Глядача, потым пад Расейскі, у часе вайны ў ім аднавіліся набажэнствы, а пасьля тут знаходзіцца кінастудыя «Беларусьфільм», што мелася летась перабрацца адсюль у адмыслова пабудаваны Палац кінафільмаў. І тым ня менш, як гэта ня дзіўна, Новы касьцёл захаваўся і нават ягоны здымак пададзены на старонцы 147-й, выдадзенай Акадэміяй навукаў БССР на расейскай мове кніжкі «История Минска» (Менск. 1957 г.). Чым жа тлумачыцца гэтая іхняя відавочна вымушаная ласка да яго, які ня зьяўляецца помнікам гісторыі? Пэўне-ж ня тым, што яны пашкадавалі Дом Божы.

Вельмі характэрны ў гэтай галіне мастацкі каляровы фотаздымак «Мінск», зьмешчаны на 9-й старонцы № 5 часапісу «Беларусь» за 1967 г. На ім, у пралёце шасьціпавярховага дому, нібы ў рамцы зь ягоных белых калёнаў, відаць ружовы Новы касьцёл, што надае сумнаму ўвогуле абыдзённаму здымку выгляд нечаканае радасьці. У тае-ж «Беларусі», у № 12 за 1967 г., на ўкладках паміж старонкамі 16-й і 17-й, рэпрадукаваны ў фарбах малюнак мастака Марка Данцыга «Мой горад». На ім на пярэднім пляне пададзены доўгі ды шырокі віядук перакінуты над чыгункай і вуліцай, што ў сваю чаргу зьнікае ў тунэлю пад чыгункай. За віядукам налева ўзвышаецца бязладны па сваім стылі гмах Дома ўраду, направа — унівэрсытэт імя Леніна, а паміж імі мастак падаў у далячыні Новы касьцёл. Чысты сьнег прысыпаў зьверху ягоныя стромкія вежы і ён падкрэсьлівае сабой усю шэрую змрочнасьць вакольнага, хай сабе й не пазбаўленага ўрбаністычнай велічнасьці. І, нарэшце, Новаму касьцёлу, пад нэўтральным назовам «Узоры зімы», цалкам прысьвечаны мастацкі фотаздымак на вок-

ладцы № I «Беларусі» за 1968 г. Сам ружовы на фоне блакітнага неба, абкружаны дрэвамі, аголеныя галінкі якіх упрыгожыла сівая шэрань зімы, ён пацяшае нават агрубелую душу.

Слынны мастак Беларусі, жыд па свайму паходжаньню, Юлі Пэн, як прыгадвае ў сваёй кніжцы «Нязабыўнае» (Менск. 1962 г.) ягоны вучань, вядомы скульптар Заір Азгур, гаварыў:

«Люблю я, разумееце, Віцебск. І як гэты горад ня любіць! Цудоўная рака! Высокія, дзе абрывістыя, а дзе пакатыя берагі... Я люблю і царквы Віцебска, бо яны не падобныя на смаленскія.

Зьвяртаючыся да гасьцей, ён зноў казаў:

— Разумееце, я люблю партрэтнасьць горада. Кожны горад павінен мець свой партрэт. А наш Віцебск сваім абліччам адрозьніваецца ад усіх гарадоў».

Касьцёлы й цэрквы, іхнія пераважна барока, радзей готыка й рэнэсанс, надавалі беларускім гарадам своеасаблівы нацыянальны калярыт. Зразумела адсюль, чаму маскоўскія ўладары, кіруючыся ня толькі вылучна антырэлігійнымі меркаваньнямі, пачалі іх у першую чаргу зьнішчаць. Характэрна, што калі былы сакратар ЦК КПБ расеяц Гарбуноў запытаўся у міністраў сучаснай Чэхаславаччыны Ганзэлкі й Зыгмунда, што іх найбольш уразіла ў Менску — Дом ураду ці аўтазавод, дык тыя, хоць і таксама камуністыя, у адзін голас адказалі: «непавага да помнікаў мінулага». І крывёю сэрца падкрэсьліў гэтае таленавіты беларускі пісьменьнік Уладзімер Караткевіч у сваім прачулым творы «Балады каменя», зьмешчаным у альманаху «Дзень паэзіі» за 1965 год:

«Што б вы сказалі, каб нехта кінуў у агонь Купалаў „Курган"? Дык, паверце, тое што здарылася з каменнымі баладамі, — горшы злачын. Тысячы „курганоў" стаяць на паліцах і шалахцяць і сьпяваюць у руках людзей. А каменныя балады выдаюцца ў адным экзэмпляры. І зьнішчыць іх — гэта тое самае, што спаліць «Кіеўскія глагалічныя лісткі" ці „Астрамірава эвангельле". Іншых не будзе».

Сумна, што сучасны Менск, набыўшы праз зьнішчэньне помнікаў рэлігійнага дойлідства й шаблённую архітэктуру новых будынкаў агульны ад Калінінграду да Ўладывастоку казённы савецкі штамп, амаль згубіў сваю колішнюю партрэтнасьць, сваё нацыянальнае аблічча. І таму трэба толькі цешыцца, што паступова тамтэйшыя пісьменьнікі й мастакі пачынаюць з дапамогай цудам ацаленых Новага касьцёлу й Сьвята-Духаўскай цэркваў разумець, даводзіць, а тым самым супрацьставіцца расейскаму вандалізму.

---

*Э. Цяўлоўскі*

# АРГЕНТЫНА — БУЭНОС АЙРЭС

*І. Філія Украінскага Унівэрсытэту.*

Пакуль што адчынены факультэты Філязофіі і Гуманістыкі. Справа нялёгкая, але як злучыліся са Славэнцамі, то пайшло лепш. Славэнцы далі проста люксусовыя салі ў суседзтве з уніяцкім саборам. Лекцыі вядуцца на трох аддзелах — гішпанскім, украінскім і славэнскім.

У сучасны мамэнт найбольш зьвяртае ўвагу агульны (гішпанскі) аддзел, які закранае справы б е л а р у с к і я.

Тут можна прасачыць прадметы, ацэньваючы іх з пункту гледжаньня беларусаведы: Параўнаўчая гісторыя славянскіх літаратураў, перапіска кніг да пачаткаў друку, (працы Фр. Скарыны і інш.). Палітычная гісторыя Украіны, Беларусі і Кн. Маскоўскага.

Гісторыя Беларусі пачынаецца ад Полацкага самаўраду, шырока разьвіваючы самадзейнасьць палітычнае думкі В. Кн. Літоўскага. Увыдатняе асаблівасьці Беларусі, якіх не спатыкаецца на Ўкраіне, ані ў Кн. Маскоўскім. Форма веча, ці Полацкі Самаўрад, як прыклады дэмакратычнае ўстановы. Гэты самаўрад пасьля быў зьнішчаны Масквою.

Літоўскія Статуты — прыклад прагрэсыўнай юрыдычнай думкі, на якой апіраліся і бралі прыклад іншыя дзяржавы (асабліва палякі). Падкрэсьліваецца права фамілійнае, уласнасьці і апекі.

Гэтыя факты зьдзіўляюць сучасных аргентынскіх юрыстаў.

Уканцы самастойнасьць Кн. Літоўскага-Беларусі здушана сілай бальшавікоў, так як і Ўкраіна: сучасны стан — Беларусь разглядаецца як каляніяльная правінцыя Саветаў.

Гісторыя Славянскіх Літаратураў: Гуманізм, Адраджэньне, Рэфармацыя (Сымон Будны, Цяпінскі, С. Полацкі і ніш.).

Рамантызм і Народная Творчасьць: песьні. (Чачот, Баршчэўскі, Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч).

Гісторыя Славянскай Культуры. Этнаграфічныя асаблівасьці Славянскіх Народаў.

Эканамічная Геаграфія Ўсходняе Эўропы: Камуністычная сыстэма гандлю. Параўнаньне зь іншымі краінамі вольнага сьвету. Каляніяльныя правінцыі: Украіна, Беларусь.

*

Пры гэтай нагодзе варта заўважыць, што прафэсарамі ёсьць асобы дабраныя, якія знаюць прадмет практычна, бо жылі ў Сав. Саюзе, і тэарэтычна, бо студыявалі ў Эўропе і Амэрыцы.

Апрача лекцыяў на ўнівэрсытэце, прафэсары чытаюць публічныя лекцыі на сучасныя тэмы, асабліва ў абароне дэмакратычнага сьвету. — Агульны рэзультат, што справы славянскія і ў тым беларускія маюць асновы на вышэйшых навучальных установах — на ўнівэрсытэцкіх катэдрах, на агульных лекцыях і ў прэсе.

*II. Нэкралёгі бяз «крыжоў»*

У савецкай газэце «Родной голос» чытаем нэкралёгі (бяз крыжоў): гэта памёршыя беларусы, якія перш належылі да нашых арганізацыяў, як «Я. Коласа», «Я. Купалы», «Менску» і інш. Але ў гэтай газэце яны ўжо тытулююцца «таварышч».

Бярэ нас дзіва, што зь імі сталася?

Вось-жа гэтая трагедыя пачалася ад замены пашпарту польскага, літоўскага ці іншага на савецкі. З гэтае пары чалавек перастаў быць вольным эмігрантам, а падходзіць пад загад савецкага полпрэства (ці консула).

Нашыя суродзічы выменьвалі пашпарты, каб мець права да павароту на Бацькаўшчыну: баяліся, што іх пасьля ня пусьцяць у Беларусь. І вось з усіх канцоў Аргентыны, Бразыліі, Парагваю і інш. краёў Паўдзённае Амэрыкі зьяжджаліся да Буэнос Айрэсу, чакалі гадамі на транспарт — аж пачыналі адыходзіць ад берагоў мора, пасяляючыся ў правінцыі гэтага штату.

Такім спосабам нашы нерастаропныя эмігранты чакалі выезду і бяднелі да астатку. А ўсюды швэндаліся і шнырылі савецкія палітрукі, пераймалі ад нашых запісы маемасьці — пляцы, дамы, варштаты для полпрэдства або і проста сабе. Эмігранты жылі пад страхам, баючыся апякуноў — аж даведаліся ўкацы, што «лепш сядзець і ня рыпацца!»

Дзеці і моладзь, народжаныя ў Амэрыцы, ужо становяцца тут аргентынцамі і цягнуцца да клюбаў аргентынскіх, дык вось савецка-расейскія арганізацыі пачалі пуставаць. І сьвяткаваньне 50 угоднаў рэвалюцыі ў Расеі тут цалкам выйшла мізэрным. А прытым на сцэнах выступалі толькі расейсцы і ўкраінцы, хоць публіка бывала ў большасьці беларуская. Дык выйшла проста кампрамітацыя! бо трэба было савецкім, хоць для вока, паказаць нешта беларускае: калі было сьвяткаваньне «савецкіх народаў», дык дзе-ж падзеўся народ беларускі? А танец «камарынскі» ў сарафанах аніяк не заменіць нашай «лявоніхі», ані нашай нацыянальнай вопраткі і роднага слова . . .

Калі пачаліся спрэчкі расейцаў з Архірэям Апанасам у сувязі зь яго кніжкай «Беларусь», то расейцы пачалі абразьліва выступаць супраць беларусаў. Гэта прычынілася да таго, што некаторыя, добра паспрачаўшыся, пачалі выпісвацца з расейскіх арганізацыяў. Пасыпаліся лаянкі, мянюшкі, як «сэпаратісты», «раскольнікі» . . . І сапраўды расейскія таварыствы — як савецкія, так манархістычныя — бяз беларусаў зусім к л а д у ц ц а .

Ёсьць тут такі Філютовіч, супрацоўнік «Роднага Голосу», родам са Слонімшчыны: езьдзіў летась на бацькаўшчыну, пабываў у Зах. Эўропе, у Канадзе, але вярнуўся ў Аргентыну. Цяпер, замест намоваў на паварот на радзіму, заклікае тут да беларускае культуры, каб вывучалі мову, музыку і народныя танцы . . . Значыць, чыста па ленінску: перш разбурыць беларускія таварыствы, зрабіць зь іх расейскія, а пасьля «давай назад!» — арганізаваць нанова.

А пра беларусаў тут загаманілі ўсе моцна. — І прыйшоў час, каб вярнуліся свае родныя арганізацыі, разьбітыя сілай або ашуканствам, як таварыства «Ф. Скарыны», якое перамянілі на «расейскі Восток» і тав. пад імянем «Якуба Коласа», якое перафасалі на «М. Горкага»!

Няхай супрацоўнікі «Роднага Голоса», ці «Голаса Радзімы» прыймуць сабе да ведама, што замест фальшывай прапаганды, трэба вярнуць беларусам іх у л а с н а с ь ц ь , бо тут не Савецкі Союз, але вольная Аргентына — К р а й Э м і г р а н т а ў !

*К. Чабатар*

# Мы — эмігранты. Аўстралія

Прыбыўшы ў Аўстралію, мы трапілі на самую сьпякоту. Вось вышлі з параплаву, упёрліся нагамі моцна ў цьвёрды грунт, а ўсё яшчэ здавалася, што зямля хістаецца пад нагамі: мы хапаліся адзін за другога, каб супольнымі сіламі ўстаяць галовамі ўгору!

Тут зь нейкага дабрачыннага згуртаваньня, якіх у Аўстраліі процьма, частавалі кожнага з нас, даючы па два яблыкі. А выгрузілі нас са дзьве тысячы асобаў!

Частуючы нас, жанчыны кожнаму нешта важнае гаманілі, а мы ўважліва слухалі і... нічагусенька не разумелі.

Пасадзілі нас у вагоны, якія — пасьля эўрапейскіх — паказаліся нам вельмі сьмешнымі, як дзяцінныя цацачкі. Так пакалесілі ў лягер недалёка ад гарадка Нортгам.

Лягер быў пасьля-ваенны: тут у гадах вайны 1941—45 жаўнеры праходзілі падрыхтоўку. Увесь пляц быў падзелены на 4 часткі — «Арэа», а ў кожнай «арэі» было па 100 даўжэзных бляшаных баракаў, што стаялі «на курыных ножках», значыць, на стаўбах мэтр у вышыню. У бараках пастаўлены па 50 ложак у радок, на два бакі.

Кожны ложак жалезны, а на ім шарсьцяны матрац накрыты белай посьцілкай з чатырмя ваўнянымі пледамі; а зьверху ляжала маленькая падушачка — цьвёрдая як камень — няведама, з чаго зроблена.

На кожным ложку ляжаў кусок картону, на якім вялікімі знакамі надрукаваны нумар кожнага з нас. А прытым у кожнага вісеў на грудзях, як медаль, выпісаны нумар, каб мы не пагубляліся: так нас абазначылі ў порце Нэапаль у Італіі. Праз усю дарогу да порту Фрэмэнталь у Аўстраліі нас выклікалі не па прозьвішчы, а па нумарах, (гонар не вялікі!). Аж нарэшце вярнулі нам уласныя імёны-фаміліі і я дастаў тытул «містэр» Чабатар, фамілію, якую страціў месяц таму назад, а № 613 толькі астаўся ў маей памяці.

Да ўсяго было дададзена: 2 талеркі, кубак, лыжка, нож, відэлец, — усё трэба самому мыць! І яш... 2 ручнікі і піжама, мыла і абавязкова пачачка «аспро» — таблеткі ад болю галавы, (з гэтым нельга разлучацца!).

За пару дзён нас паклікалі ў лягерны магазын і адзелі па аўстралійскай модзе — мушчын і жанчын: я-ж дастаў пры этым капялюш (дасюль ніколі гэтакай фацэціі не насіў!), рубашку, марынарку, (гоўзы) — порткі, панчохі і чаравікі. — Дык выйшаў стуль, як кажуць, «франт з паліваным носам»!

Кожны тыдзень даставалі мы па 10 шылінгаў — «кішанковых» — на дробныя выдаткі. І раз у тыдзень мелі бясплатнае кіно, дый глядзелі, як «баран на маляваныя вароты»: нехта там балбоча, але ліха яго ведае што?

*

Як я ўжо казаў, прыбылі мы нашай зімою, у студзені, але тут было самае лета: удзень так жарыць, што ратуначку няма! а да таго яшчэ і мухі. Аж нельга ад іх адчапіцца: Як ні адмахвайся, усёроўна ўлезе ў нос, у вочы, у вушы... Хто-бы па лягеры ні праходзіў, дык кожны з галузкаю.

А клімат пад тропікамі такі, што ўдзень сьпека, а ўначы холадна. Хоць накрываліся ўсімі коўдрамі, а ўсёроўна зубы адбівалі «чачотку». Пачалі распальваць вялікія вогнішчы: дроў тут, колькі хочаш, бо лягер у лесе. Цэлыя пні валяюцца — аж пасівелі ад старасьці! Нашая ўлада нават цешылася, што ачышчаем лес.

Цэлымі начамі сядзелі пры агні — выгода і нявыгода, бо спераду грэе, а ззаду мерзьнеш. Затое ўдзень адпачывалі, але-ж тут зноў мухі! Ну! пачалі мы хітрыць: набіралі ў вёдры гарачага вугля і ставілі ў бараках. Так бараніліся ад мушак і самі грэліся: было добра і прыемна — аж пакуль не падпалілі бараку, што ледзь ня ўсе пайшлі-б «на лона Абрагама!»

Тады ўлада забараніла разводзіць агні. Аднак наш чалавек — кемлівы: пачалі майстраваць у бараках «хаткі»; — завешвалі коўдрамі сямейныя ложкі і рабілі як-бы «сабачыя будкі». Гэтак навучыліся ратавацца ад начнога холаду, але ад дзённае сьпекі ня было ніякае рады.

*

Ня маючы ніякага дзела, заняўся я паляваньнем на кролікаў. Як іх сюды завезьлі з Эўропы, яны так распладзіліся, што сталі вялікай пошасьцяй: нішчаць тысячы гэктараў пшаніцы. Ня было ратунку і атрута памагала недастаткова. Перагарадзілі ўсю краіну — ад мора да мора — густой драцянай сеткаю ў дьве лініі. Значыць, Аўстралія перагароджана на 4-ры вялізарныя агароды. Пастаўлены спэцыяльныя старажы. На дарогах адумысловыя вароты і загад зачыняць іх за сабою: ведама, адзін зачыніць, а другі і не! Хоць і накладаюцца строгія кары за непарадак, хоць і сеткі ўкапаныя на мэтр у глыбіню, але нічога не памагае: крolікі ўмеюць падкапацца і поўна іх абапал сеткі.

Аж нарэшце знайшоўся мудрагель, які парадзіў прывезьці з Эўропы лісіцаў: яны будуць вынішчаць кролікаў... Добра! — Аднак лісіцы зара зьмеркавалі, што злавіць кроліка ня так лёгка, як выкрасьці ягнятка з авечага стада-атары і перакінуліся на ягнят! Трэ было паляваць цяпер і на кролікаў і на лісіц, а ўрад плаціць за кожнае лісічына вуха два даляры!

Тут мне прыпомнілася казка аб адным грэцкім вучоным. — У багатага грэка стаяла ў садзе вялізная пасудзіна на дажджавую ваду ў форме збана. Пасьвіўся ў садзе вол: зьнюхаў ваду, усадзіл галаву, піў-піў аж да дна, аж да рагоў, а пасьля ня мог ужо зьняць таго збана з галавы. Гаспадар надбег памагаць валу, але таксама нічога ня вышла! Зьбегліся людзі, думалі-думалі, што зрабіць? і нічога ня выдумалі. — Аж паклікалі мудраца, а той кажа: «Няма іншае рады — трэ валу одрэзаць галаву!» Адрэзалі, але і так галава ня вылазіць... Тады надумалі разьбіць збан і галава стала вольнай.

Так у кожнай краіне ёсьць нямала мудрацоў, дык і цяпер радзілі — то прывезьці з Гішпаніі блох і напусьціць на кролікаў, то заразіць кролікаў нейкай паскуднай хваробай... Аднак Англія супрацівілася: якая ёй бяда, што крулікі робяць шкоду? Затое Англія вывозіць ледзь не задарма дзесяткі тонаў кролічага мяса!

*

Але вернемся да паляваньня! За кожную штуку — кроліка плацілі скупшчыкі па 2 шылінгі. Далучыўся да мяне случчанін Максім, афіцэр савецкае арміі. Пытаюся: «Хто ты?» — Адказвае: «Я тоже белорус!»

Максім прылашчыў блуднага сабачку і назваў «Бобік». — Вось аднойчы ідзём на паляваньне. Спаткалі фармэра, які ехаў конна са стрэльбаю на плячах. Наш Бобік адскочыў крышку ў бок. Бачым — фармэр здыймае стрэльбу. Максім крычыць: «Бобік, к'ноге! Бобік...» Але Бобік па расейску не разумее і мяркуе ля пня нешта зрабіць. А мы ня ўмеем крыкнуць на фармэра па ангельску. — Бухнуў стрэл і Бобік зваліўся на пянёк. — Максім зьбялеў, падбег да фармара, крычыў, махаў рукамі. — Але фармар паказаў на сваіх авечак і паехаў далей. Мы вярнуліся ў лягер і на гэтым нашае паляваньне скончылася.

*

Нарэшце мяне паслалі на работу, на чыгунку, — у самае аўстралійскае пекла! Цэлы дзень неба над намі сіненькае, бяз хмарачкі. Сонейка вісіць над самай макаўкай; а як знайсьці халадок, аб гэтым трэба забыцца. — А ноччу неба чорнае як патэльня: зорачкі як вугольле гарацць — аж пераліваюцца!

Мухі тысамыя, але да іх далучыўся пясок, які шугае па палях, як у нас зімою сьнег. І мурашкі...

Участак нашае працы цягнуўся на 30 міль. Трэба па чыгунцы зьмяняць папсаваныя шпалы, папраўляць пагнутыя ад сонца рэйкі, затыкаць дзюры ў грунце і душыць там кролікаў, каб не псавалі насыпаў. Бо як пойдуць ліўні, дык разьмываецца зямля і бываюць выпадкі з цягнікамі. Ачышчаць дарогу ад сухой травы, каб не дапусьціць пажару ад іскраў.

Тут прышлося мне прыглядацца да асаблівасьці ў прыродзе, як у сухім клімаце дае сабе раду асаблівы гатунак травы. Калі дасьпее насеньне ў маленькім каласку, дык зерняткі дробныя, як макава зерне, але даўгаватыя зь вельмі цьвёрдым вострым кончыкам, прымацаваным да коласа. А ўверсе — доўгі вусік, як у нашага ячменя. Калі зачэпіш сьпелы каласок, зерняты распырсківаюцца і адскакваюць даволі далёка.

Трапіўшы на грунт, вусік пачынае скручвацца спіральна і гэтак зярнё пачынае пранікаць у зямлю. Які ня быў-бы сухі грунт, дык зерне залезе і схаваецца. Гэта ўсё робіцца ў пару хвілін на маіх вачах. Так схаванае зярнё чакае дажджу, каб зара ўзыйсьці і каб захаваць свой род. Калі-ж хачу дастаць зярнё з зямлі, дык акажацца ў маіх руках толькі той вусік; а само зярнё мае, відаць, зубкі і зачапляецца за грунт. Так, Госпадзе, «ўсё прамудрасьцю Ты стварыў...».

*

Нашая група складалася з 4-х работнікаў: беларус, украінец, паляк і 4-ты «сабе так»; а лічыў сябе палякам, бо быў каталік. Казаў: «Я — Сьцёфан Скаварэда з Глэмбокего». — Так мы яго і называлі — «Глэмбокего». А ўсё-ж нам згаварыцца з сабою было лягчэй, як з «босам»-аўстралійцам.

Андрэзак нашае працы — 30 міль — мы праяжджалі «помпай»: гэта плятформа на дзьве восі з коламі, ставілі яе на рэйкі і «пампавалі» — так яна неяк нас везла. Ведама, туды-сюды трэба было добра папацець, ківаючы як пажарную помпу-дый пры такой сьпякоце!

Аднойчы, едучы дамоў, мы супыніліся на перапачынак, паселі на плятформе і гаманілі: я расказваў, а ўсе рагаталі. Бос думаў, што мы яго абмаўляем: падыйшоў і шлёпнуў мяне па шыі, дый нешта такое сказаў. А я скумекаў, што ён мяне образіў і бац яму па зубах! — аж пацякла з носу і з зубоў юшка! Посьле я зьмеркаваў, што ён празваў мяне брахуном, але ў тым абразы ніякае ня было. — Ну, мяне перавялі ў другое месца, дзе і цяпер жыву.

А ў Аўстраліі такі закон, што пры працы — барані, Божа! — каго зачапіць, ня толькі боса,

але хоць і сябра. — Караюць найвышэйшымі параграфамі. На шчасьце, я тады яшчэ не падпаў пад тыя законы, бо мы былі нічые.

А чаму мяне ня выгналі зусім з работы? Ну, яны гэтага не маглі зрабіць, бо мы былі работнікі кантрактаваныя: яшчэ ў Нямеччыне мы перад дарогай падпісалі кантракт на 2 гады; аднак заработак наш быў зраўнаваны з усімі тутэйшымі. Праўда, пасылалі нас на самую горшую працу.

*

Дактары кажуць, што некаторыя хваробы перадаюцца ў спадчыне. Але і навыкі перадаюцца таксама. Дзед мой (па бацьку) быў заўзяты рыбак; але бацька мой ня прызнаваў гэтага і казаў: «Як бацька рыбачыў, я хлеба ня бачыў» і «ў рыбака — голыя бака». Дый сьмяяўся, што хлеб кажа: «Кінь стрэльбу і вуду, дык я ў цябе буду!».

Аднак я пайшоў па дзеду — не па бацьку і так мне тады хацелася пабегчы з вудой на Нёман, але бацькава папружка ня пускала. Калі-ж я стаў самастойным, адразу пачаў рыбачыць! І мае бакі ня былі голыя і хлеб вёўся заўсёды. А пасля вайны ў Нямеччыне я 5 гадоў вудзіў дзень-у-дзень і з гэтага нават хлеб еў, — так, што бацькава навука ня была трапная.

А, едучы морам, я выпытаў праваднікa, ці можна ў Аўстраліі вудзіць рыбу? Мне адказалі, што ў іх можна лавіць-вудзіць дзе хочучы і колькі хочучы, бяз ніякага дазволу. Толькі трэба ўважаць, што ёсьць там рыбы атрутныя і небасьпечныя. Мяне гэта нямала зьдзівіла: колькі мы ў Нёмане лавілі рыбы, ніколі ядавітых гатункаў не здаралася.

Належныя прылады-вуды я прывёз з сабою зь Нямеччыны. Трапіўшы ў гор. Альбаны на самым берагу мора, я ня мог дачакацца суботы, каб пабегчы з вудою! Аднак накапаць чарвакоў — тут вялікая загадка, бо ў пяску іх нямашака. Пасьля я пачаў звальваць у горбу сьмяцьцё і гадаваць чарвякоў.

А жонка перасьцерагала: «Нацешышся яшчэ, а то і нарвешся! гэта табе — ня Нёман, але мора». Але ў мяне гарэла ўся душа: у пятніцу па вячэры толькі было і гутаркі, як першы раз у жыцьці буду лавіць рыбку ў моры! Накруціў гадзіннік-бразгатун, каб не праспаць, бо раненька меркаваў пабегчы... Дый непатрэбны быў гадзіннік, бо я і так ня мог заснуць. Толькі пачало шарэць, я ўжо схапіўся.

*

Хто ня бачыў сьвітаньня на моры, той не адчуе той красы неба і вады. Сьвітанак быў цёплы і ласкавы. На ўсходзе далікатна сінела. Зоркі не гасьлі адразу, але адыходзілі далей і далей ў глыбіню неба, трацілі свой бляск і бляднелі. Слабенькі туман курыўся над прасьветленай да дна вадою.

Калі пад'ехаў я самакатам да прычалу, ужо падыймалася з вады, як царскі залатнік, чырвонае сонца. Цень ад прычалу клаўся на ваду і тут вада прыбірала цёмна-сіні колер. А было так ціха, што стук маіх крокаў аб насьціл разыходзіўся па моры далёка і гулка, як у пустым будынку.

Прайшоў я на канец прыстані, якая падавалася ў мора на якіх 100 мэтраў. Сеў і разматаў вуду. Навалок чарвяка на кручок, хоць той доўга не даваўся і выкручваўся як вужака. Папляваўшы на чарвяка, меркаваў закінуць вуду...

А трэба-ж помніць, што талковы рыбак заўсёды паплюе на чарвяка і то абавязкова тры разы: тады ўжо пэўна, што рыба возьме. А бяз гэтага нават і ня прабуй!

Закінуў вуду, а рукі дрыжаць ад узрушэньня і нецярплівасьці.

А якраз на беразе тыркала машына. Я аглянуўся. З машыды вылезла жанчына: — нічога сабе — і гадоў так за трыдцаць; на галаве вялізны, як калясо, капялюш. Адзетая ў белы сьвэтар і ў сінія суконныя порткі. Праз плячо ў яе перакінута почэпка з торбай з прыладамі да вуджэньня рыбы.

Недалёка ад мяне яна села. Гляную — чырвоныя губы, а таксама і пазногці на руках і нагах. Закурыла духмяную цыгарку і хацела ўгасьціць мяне, але я адмовіўся. Пачала разматываць сваё прыладзьдзе; а сама паглядае на мяне і ўсьміхаецца: відаць, зьмеркавала, што я нятутэйшы, бо сяджу з доўгай тычкаю-вудою. І я аж крыху засаромеўся, што «ня зьведаўшы броду, палез у воду»! І пасьля і я таксама хадзіў на мора бяз вудзілішча і паплаўка. Проста, трымаецца леска ў руццэ: як рыба турзае, чуеш пальцамі і шыбка падсякай!

Толькі-ж бачу, што яна начапіла замест чарвяка добры кусок мяса. Ну, думаю: «Мяса магла і так зьесьці!»

Аж пачуў, што маю вуду тарганула: глядзь! паплаўка няма. Цягну — ня йдзе! І стала вадзіць леску туды-сюды, аж нарэшце выцягнуў доўгую, як вужака, рыбіну, якая шлёпнула на памост. Суседка схапілася і бяжыць да мяне дый крычыць: «Poison, poison!..».

Аднак было ўжо запозна, бо я схапіў рыбіну за галаву, каб адчапіць ад кручка — аж вось пачуў, як штосьці мяне рэзнула ў далонь, якбы агнём напаленым жалезам.

А суседка жыва стала нагою на рыбу, адрэзала леску з галавою рыбы, дый спіхнула нагой з памосту ў ваду.

Рыба гэтая называецца тут Кобла, зусім падобная да нашага мянтуза і смакам таксама, дый не пахне ёдам, бо ня жывіцца марскімі водарасьлямі. А морскія водарасьлі маюць у сабе шмат ёду.

Гэтая рыба вельмі смачная і дарагая, толькі-ж трэба адразаць у яе схаваныя ў плаўніках і абапал галавы атручаныя шпількі: хто ня ведае і хапаецца за галаву, можна небасьпечна зраніцца.

Я-ж апісваю гэта працягла, а ў тым выпадку яно трывала надта коратка. Мая далонь гарыць, уся чырвоная і ад раны пайшла чырвона-цёмная палоска аж да локця. Якое шчасьце, што надарыў Бог гэтую разумную жанчыну: каб не яна, дык я гэтых радкоў ня пісаў-бы, а Вы-бы ня чыталі! — Яна хапіла мяне за здаровую руку і бегам пацягнула да машыны, адчыніла дзьверцы, пхнула мяне ў сярэдзіну — аж я стукнуў галавою, як раптам зрушыла аўто і як віхор панеслася... куды? Ня ведаю!

Праз пару хвілін я быў ужо ў доктара, які гумовым паяском перавязаў мне руку вышэй локця, спусьцілў кроў, запусьціў два шпрыцы зь нечым у тую руку.

Так першая рыбіна каштавала мне 4 даляры, а ў краме бяруць за яе 20 цэнтаў за фунт.

Цікава! Колькі разоў пасьля лавіў там рыбу (я-ж не страціў ахвоты і пасьля таго здарэньня!) нігдзе не спаткаў той сваей дабрадзейкі. А прайшло ўжо 18 гадоў. Аднак моцна веру, што яшчэ спаткаемся!

(Заканчэньне ў наступным нумары)

## *З царкоўнага жыцьця*

ВАТЫКАН: У першы дзень Пасхі Павал VI падчас набажэнства прамаўляў да сабранага народу, даючы багаславенства ўсяму сьвету («Урбі эт Орбі»). А народу — пілігрымаў і рымлянаў — было каля 250 тысяч.

Казаў, што думкамі лучыцца з усім цывілізаваным сьветам, які асабліва непакоіцца вайною на Далёкім Усходзе, у Вьетнаме, дзе вайне той, здаецца, ня будзе канца. ... Аднак кожны чалавек павінен прычыніцца сваім захаваньнем і малітваю да супакою ў сьвеце.

*

ВАТЫКАН: У пачатку траўня Папа аб'явіў сваю пастанову, што — на просьбу ўраду, духавенства і каталіцкага народу Калюмбіі ў Паўдз. Амэрыцы — паедзе на Эўхарыстычны Кангрэс у гор. Боготу ад 18 — да 24 жніўня. Прытым мае тады быць на зьезьдзе Біскупаў усяе Лацінскае Амэрыкі.

Паведамляюць, што Папа назначыў 12 Біскупаў, закліканых з усяго сьвету, каб былі ўчасьнікамі Сэкрэтарыяту Еднасьці Хрысьціян. З гэтага відаць, якое вялікае значэньне Папа прывязвае да справы аб'еднаньня хрысьціянства, значыць, да экумэнізму, як яго цяпер называюць. Між іншымі ўваходзяць у гэты Сэкрэтарыят кард. Сэпэр з Югаславіі, арцыб. Томасэк з Чэхаславаччыны і біскуп Модзэлевскі з Польшчы.

*

ШВЭЦЫЯ, гор. Упсаля: Сёлета летам адбудзецца тут зьезд Сусьветнай Рады Хрысьціянаў. Да гэтае Рады належаць пратэстанты і праваслаўныя: яна групуе каля 400 мільёнаў хрысьціян. Ад Каталіцкай Царквы ўваходзяць абсэрватары (16 чал) з правам голасу.

Прадбачыцца там вялізны зьезд розных нацыяў і краёў: Праграма зьезду: 1) Палажэньне і заданьне Хрысьціян у цяперашнім сьвеце, 2) Злучэньне Цэркваў, найперш пратэстантаў, а пасьля і ўсіх іншых.

Мэта вялізарнага значэньня: вымагае вялікай цярплівасьці, пакоры і малітвы, бо розьніцы паміж Цэрквамі вельмі глыбокія. Аднак трэба споўніць загад Хрыстовы; «Няхай будуць усе адно: як Ты, Айцец, у-ва Мне і Я ў Табе, так і яны няхай будуць адно». (Ян 17, 21).

*

ЧЭХА-СЛАВАЧЧЫНА: Ў Празе Чэскай, калі сонца сапраўднай свабоды засьвяціла чэхам і славакам, Каталіцкая Царква таксама ўваходзіць на шлях адраджэньня. Лік каталікоў даходзіць да 10-ці мільёнаў на агульную колькасьць 13 міл. 700 тысяч жыхароў.

Асабліва выдзеляюцца тут славакі, якіх у дзяржаве ёсьць 4 міл. 174 тыс. і яны становяць больш дружную і актыўную частку каталіцкай грамадзкасьці ў краіне. Прытым існуе там значная частка (каля паўмільёна) катал. усходняга абраду, якія ад часоў сьвятых Кірыла і Мяфода ператрывалі да сяньня. Яны перажылі яшчэ большы уціск чым лацінская Царква, бо ў 1950 годзе былі афіцыяльна прылучаны да Царквы праваслаўнай — пад уплывам сталінскай улады: біскупы былі адсунутыя ад народу, а духавенства — хто ня перайшоў у праваслаўе — было саслана ў турмы ці лягеры.

Мусімо прыпомніць, што ў Галічыне ў 1946 г. гэта перажылі каталікі ўсходняга абраду (4 мільёны), а таксама ў Румуніі ($1^1/_2$ міл.) і ў Польшчы. Адным словам, у дзяржавах, якія па II-ой вайне падпалі пад рэжым савецкай камуны, Царква Грэка-Каталіцкая ўсходняга, славянскага абраду, была прымусова скасавана, што трывае аж да гэтага часу. І гэта было галоўнай прычынай, што ўкраінцы грэка-каталікі аказаліся ў такіх масах на эміграцыі ў Эўропе і Амэрыцы.

Праўда Катал. лацінская Царква ў Чэхіі не падпала пад касацыю, а толькі пад страшэнны уціск: было 20 біскупаў, а камуна дапусьціла да працы толькі двух; з 12 духоўных сэмінарыяў асталося дзьве і то з абмежаваным лікам студэнтаў. Законы скасаваныя, манахі і манахіні разагнаныя, каталіцкія школы і дабрадзейныя інстытуцыі зьліквідаваны. Духавенства або пайшло ў вязьніцы, або прымушана працаваць у фабрыках і калгасах, а толькі 3-яя частка магла працаваць у парахвіях. Словам, усё царкоўнае жыцьцё — пад прэсіяй атэізму і камуны — павінна было замерці.

Аднак ня толькі ў Славацыі, але нават і ў абыякавай рэлігійна Чехіі, рэлігія ня ўпала, але ўтрымала сваю жывучасьць і моцную волю адраджэньня. Каталіцкая Царква дамагаецца ад новага ўраду поўнае свабоды, якая была гварантаваная канстытуцыяй, але зламаная ў практыцы папярэднімі ўрадамі.

Гэты ўрад Ал. Дубчэка абяцае вярнуць забраную свабоду і паволі выконвае свае абяцаньні, прытым прызнаюцца да папярэдніх памылак і кажуць: «Больш ня будзем мяшацца да царкоўных справаў!»

Арцыбіскуп Томасэк у сваім пастырскім лісьце на Пасху пісаў: «Мы зносілі праз доўгія гады цяжар пагарды, дэпартацыі, наклёпу і нас

адсунулі ад публічнага жыцьця і ад нашых абавязкаў, такжа турмы, пазбаўленьне працы і лучнасьць з Рымскім Пасадам».

На пачатку траўня Арц. Томасэк — чэскі і біскуп Лазік — славацкі былі ў Ватыкане на аўдыенцыі ў Папы. Есьць надзея, што ўсе труднасьці з урадам будуць памысна залагоджаны, калі толькі не перашкодзіць Савецкі Саюз, які вельмі коса глядзіць на новы рух у Чэхаславацыі.

## З лістоў у рэдакцыю

# Цёмныя хмары над сьветлымі гарадамі

Дзесяць гадоў таму назад я перажываў вялікае шчасьце ў маім малым жыцьці, (а можа няшчасьце?).

Мне ўжо здавалася, што трапіў на другую плянэту, але гэта быў амэрыканскі, як кажуць, «Шакаладны Тэль-Авіў», гэта азначае Нью Ёрк-Бруклін, сумесь нэграў і жыдоў. — А было гэта ў чэрвені, у бязхмарны суботні дзянёк. Сонца, як праз туман, лягло на горад, пражучы яго. Паветра дрыжэла і хвалявала ад разагрэтых будынкаў і ад прапечанага вулічнага асфальту — аж здавалася, што вось-вось увесь горад успалыхне, ахоплены раптоўным полымям! А людзі — чорныя, шакаладныя, кафейныя і белыя — шукалі цяністага прыпынку і прыкрыцьця ля дамоў і ў парках пад дрэвамі, але і там халадку не знайходзілі.

*

Недалёка ад Піткін Авэню было невялічкае згуртаваньне белых з Эўропы і таксама старой і новай эміграцыі беларусаў. Нават здабыліся на ўласныя дамы, пераважна на шэсьць сем'яў.

І вось у той перагрэты суботні дзень, (25-га чэрвеня 1957), сядзела група беларусаў у гародчыку, пілі жыдоўскую леманьяду проста з халадзільніка, халодную як лёд і гутарылі між сабою. Яны былі ўласьнікамі дамоў і іх лучылі супольныя клопаты дый небасьпека.

— Гэтулькі мы ўлажылі працы на куплю гэтых дамоў, а цяпер ані прадаць, ані перанесьці! .. Каб хоць дзесяць тысяч хто даў! —

— Ну, так: акружылі каляровыя, аднак ня купляюць — чакаюць, пакуль мы самі ўцячом ад іх і дамы пакінем ім дарма ... Шчасьлівы той, хто дасюль ня купляў дому, дык цяпер можа купіць, дзе хочучы — на прадмесьці. Вось туды ўцякаюць усе белыя: там спакойна і толькі там можна па людзку жыць.

— Так, гэта праўда! — казаў Дарашэвіч Ігнат. — Але, паслухайце, новую гісторыю! У мяне жыў кватарант: плаціў нядорага — чалавек вельмі ашчадны і меў ужо ў банку немалую суму даляраў, каб на старасьць купіць сабе за горадам дом і гародчык. А ўсё гэта, каб далей ад шакаладных людзей, бо нэгры проста не даюць белым у суседзтве спакойнага жыцьця, а партарыканцы бываюць яшчэ горшыя.

— І вось узяў ён з банку тысячу даляраў дый паехаў з жонкай аглядаць апытаны дом. І ўсё прайшло памысна: дом спадабаўся і цана была па сіле, дык згаварыліся аб спатканьні, каб закончыць фармальнасьці з купляй. Але, як вярталіся вечарам ад станцыі падземкі Саратога — ужо недалёка хаты, раптам наскочылі чорныя, зьбілі дзеда да паўсьмерці, адабралі грошы і ўцяклі! — Дзядуля, значыць, зара і памёр. Жонка ліпіць яшчэ, але таксама доўга не пацягне.

І тут расказам ня было канца. Казаў Ануфры К. аб сваім сваяку:

— Вінцэсь быў з новай эміграцыі. І ён трапіў у поцемках на добрую кампанію: дастаў ад чорнага незнаёмага — без дай прычыны — жалезнай палкай па галаве — гэта ў горадзе, на люднай вуліцы! Праўда, у шпіталі яго адрамантавалі, бляшкай залаталі галаву і сказалі: «Усё добра!»

— Аднак вось як выйшла «добра»: ня ведама чаму, скарацілася ў яго памяць, што ані паехаць куды, ані вярнуцца дамоў сам ня можа без праваднікa. А да працы стаў зусім няздатны: дастае невялікую ўспамогу.

Але-ж паліцыя злавіла тых двух чорных, што білі Вінцэся і іх асудзілі — аднаго на сем гадоў, а другога на дзесяць. Ну, і гэта справядлівая, але малая пацеха! Аднак па двух гадах прыходзіць паліцыя да Вінцэся і пытае: «Ці вы нічога ня будзеце мець, калі мы тых нэграў звольнім, бо нам трэба ўтрымліваць і іх дый іхнія сем'і — жонак і грамаду дзяцей? Дык будзе лепш, калі яны самі будуць працаваць на свабодзе ...

— Дык вось наш бядуля і кажа: «Не, не! Я нічога не маю супраць іх звальненьня ... »
Ён баяўся, каб ня мсьціліся.

Так канчаюцца суды і кары на чорных, дык ім лягчэй жыць з рабунку, чым з труднае працы ў фабрыцы. Жывуць яны па некалькі сем'яў у адным пакойчыку: сьпяць на зьмену, бо няма

месца для ўсіх. Калі адна зьмена сьпіць, то другая займаецца «пабочным заработкам», ці «паляваньнем» на спозьненых белых уначы. А ўдзень пераважна сядзяць пры піве дый, напіўшыся, малоцяць у такт жалезнымі палкамі па бочках ад сьмяцця: рэха ад бляшаных бочак расходзіцца далёка. Нэгры весяляцца і скачуць, а белыя ўцякаюць з цэнтраў гораду на прадмесьці.

Некаторыя з іх веручыя, але, як прышлося бачыць, моляцца яны на свой спосаб — аж мне стала страшна!

Гэта было вечарам. Іду ўздоўж вуліцы і чую такі жудасны стогн і енк, як-бы не з аднаго, але з дзесяткаў людзей зьдзіралі скуру, — такія сьмяротныя галасы жывых людзей... Падыйшоў бліжэй і бачу на вялізнай выставачнай шыбіне намаляваны чырвоны крыж і надпіс: «Church», значыць, «маленьня»-царква. А ў салі дзёрліся, як хто мог, наймацнейшым галасам-крыкам: — мусіць яны так маліліся? Дый прытым білі ў розныя барабаны да познае начы. — Ведама ,наўкол суседзі не маглі заснуць, але ані паліцыя, ані іншыя ўлады ім не маглі перашкодзіць, бо Амэрыка — вольны край.

У Нью Ёрку, праўда, чорныя маюць вонкавую свабоду, але, што датычыць працы, то бывае ўсяляк. Там, дзе я працаваў, на дванаццаць тысяч работнікаў ня было ніводнага каляровага: ня прыймалі нават да найгоршай работы. І наагул белыя сьцерагуцца прыймаць на працу чорных і шакаладных. Гэта — на поўначы; а на паўдні — яшчэ ім трудней. — Дый цяперашнія варункі працы вымагаюць адпаведнай інтэлігенцыі, якой каляровыя не здабываюць у сваіх школах, якіх таксама недастаткова.

Вось і прычына, што чорныя пачалі пратэставаць і дамагацца раўнапраўя зь белымі. Калі пратэсты, крыкі, паходы, мітынгі не памагалі, дык каляровыя пайшлі і кінуліся рабаваць, разьбіваць шыбы ў магазынах, рабіць налёты дый падпаліваць гарады. І вось навісьлі «Цёмныя Хмары Над Сьветлымі Гарадамі»: выступіла паліцыя, войска, нацыянальная гвардыя. Былі сотні забітых і тысячы раненых дый вялізныя мільёны стратаў.

Калі вецер разьвеяў чорныя хмары, галавешкі згасьлі, а чорныя людзі астылі, тады Вашынгтон пасылае камісіі на допыты і на разгляд заблытаных справаў і палажэньня. Па доўгіх месяцах рассьледаваньня камісіі даходзяць да высnаву, што вінаватыя... **б е л ы я**! Бо каляровыя занядбаныя, недастаткова прыгатаваныя да жыцьця, недавучаныя і ў практыцы не маюць раўнапраўя.

Дык вось чорныя — гарой! Бо белыя іх ужо баяцца.

Губэрнатары зьбіраюцца на нарады: «Што рабіць? Як бараніць гарады і белых людзей ад напасьцяў і ад рабунку?»

Адны радзілі ўзброіць лепш паліцыю і войска, страляць бяз ніякае цэрэмоніі. Але губэрнатар з Лёс-Анджэлес казаў: «Даваць ім працу! Тады ня будуць мець ні часу, ні патрэбы на хуліганства».

А губэрнатар Нью Ёрку цешыць будовай новых дамоў для чорных і падвышкай успамогі.

І наагул у Ньюёрскім штаце каляровым паводзіцца найлепш.

*Б. П-цкі*

*(Рэдакцыя: Гэтыя непалады з чорнымі ў Амэрыцы зьяўляюцца рэзультатам усіх крыўдаў,* якія яны перанесьлі ад белых людзей, якія іх выкрадалі з Афрыкі і гандлявалі імі як нявольнікамі. А нават, калі зvolьнілі, дык не далі ім роўнага права: ані ў працы, ані ў школах, ні ў абыдзённых адносінах, нават у касьцёлах! Дый цяпер. калі афіцыяльна зраўналі зь белымі, дык практычна не тасуюць раўнапраўя.

Аднак каляровыя ўжо дарасьлі да розуму і пачуваюць сваю сілу і энэргію, дык прымушаюць белых тэрорам і страхам.

Што-ж рабіць? Даўнейшае бяспраўе цяпер мсьціцца на белых і трэба ісьці на ўступкі, каб сапраўды зжыцца з каляровымі па людзку і па хрысьціянску.

Я гаманіў у Амэрыцы нашым беларусам: «Помніце, што чорны прэзыдэнт ужо нарадзіўся і ходзіць у школу: як дарасьце, дык белыя будуць пастаўлены ў палажэньне чорных...»).

*Б. П.*

*

## МАССАЧУЗЭТ, 14. III. 1968

...з маіх 4 з паловай даляраў прашу $ тры адлічыць на кнігу «Кветкі і Церні жыцьця»: гэты зборнік хачу абавязкава мець; адзін з пал. даляр д-ру Небядовічу. Выбачце за так скромную ахвяру! Думаю, што шмат ёсьць такіх між нас, якія спачуваюць старому, дастойнаму чалавеку, а з многіх пакрысе-аднаму можа стаць запамога.

(Рэд.: Дзякуем! Вы, праўда, ужо памагалі хвораму, але іншыя адазваліся мала, ледзь пару чалавек знайшлося ахвярных: дай, Божа, ім самым здароўе!)

...з краю прыходзяць лісты ня вельмі радасныя. Старшая сястра пісала, што апякуецца 4-ма ўнукамі. Яна ўжо старая, няздольная да працы, мае 12 рублёў пэнсіі. Мае яшчэ штось з гароду і тым мусіць пражыць сама і карміць 4-ра малых. Раз паслаў грошы, а цяпер выслаў матар'ял: піша, што там у цане і можна прадаць па 20

рублёў штуку. Піша, што жыцьцё цяпер ня вельмі цяжкае для тых, хто здароў і ня леніцца працаваць. Піша, што сьвяточнымі днямі людзі могуць пабачыцца, як ідуць у царкву і ўсе разам чытаюць мае лісты.

Спачатку голасна затрубілі пра Сьвятлану і яе кнігу, але цяпер ня чутно ні аб ёй, ні аб кнізе. А я ня маю сымпатыі ні да яе, ні да той кніжкі. — Выбачце за мае недахопы: гэтым мяне ня скрыўдзіце, калі не надрукуеце. — Гэта мая радасьць памагаць кажнаму. А калі хоць гэтым памагу «Божым Шляхам», буду мець яшчэ больш радасьці. Прозай што пачаў пісаць, неяк застыла на пяці бачынах. Калі Бог дасьць спакойна пажыць, можа закончу.

І будзьце ўсе здаровы!

*Н-скі*

БРАЗЫЛІЯ — РІО ДЭ ЖАНЭЙРО:

Вельмі Паважаны,

Шанаваны Рэдактар «Божым Шляхам»!

Вітаю Вас і ўсіх пісьменнікаў, працаўнікаў і чытачоў з нагоды радаснага дня Сьвятой Пасхі!

Жадаю здароўя, сілы і апекі Госпада Бога, каб з Яго волі і Вы ўсе чэрпалі моц сваей волі і сілу цела і духа; а найбольш Вы, айцец Рэдактар — старэнькі, замучаны ворагамі хрысьціянства. Вы — з Божае ласкі пісьменнік і паэт.

Чытаю й перачытываю «Божым Шляхам» з увагай і пашанай дый знайходжу тут многа пажывы, навуковага дацеканьня, досьледаў з гісторыі Царквы, з гісторыі паняволенай нашай Бацькаўшчыны і замучанага народу. А Беларусь жыве і станецца вольнай. Як у даўнейшых стагодзьдзях, гэтак і цяпер яна мае выдатных вучоных, пісьменнікаў і сьвятароў, якія ёсьць стойкімі змагарамі за веру, праўду і свабоду.

Хай жыве наша Беларусь і наш народ!

*Д-р Язэп Пашкевіч*

ГІШПАНІЯ — МАДРЫТ:

Высока Паважаны Рэдактар

часапісу «Божым Шляхам»!

Напэўна Вы схочаце сабраць і ў кароткай форме апублікаваць у «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» весткі з розных краінаў аб 50-тых угодках абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Пару слоў на гэтую тэму можна было-б падаць і з Гішпаніі.

Тут пасылаю Вам у перакладзе на беларускую мову тэкст, які Гішпанскае Радыё перадало 25-га Сакавіка ў сваей праграме. Зьмест тэксту такі:

«50 гадоў таму здабывала сваю незалежнасьць Беларусь, больш ведамая сярод нас як „Rusia Blanca”. На працягу папярэдніх стагодзьдзяў гэтая краіна называлася Вялікае Княства Літоўскае і яе нацыянальныя імкненьні ператваралі-ся ў запраўдную пры развале царскай імпэрыі.

«Але 1918-ты год быў таксама і пачаткам эпохі савецкай. Два гады пазьней беларусы патрыёты былі змушаныя пайсьці на выгнаньне і там кожны год адзначаюць сваё нацыянальнае сьвята.

«Беларусь у мінуўшчыне была вялікай перашкодай супраць азіяцкіх інвазіяў, якія ніколі ня здолелі нарушыць яе тэрыторыі. Адзін беларус, доктар Францішак Скарына, увёў друкарства ўва ўсходняй Эўропе і ў 1517 годзе, 80 гадоў раней чым у Маскве, надрукаваў першую кнігу, пераклад Бібліі пабеларуску.

«Беларусь у сучаснасьці ёсьць адна з 15-ці савецкіх рэспублікаў, якія твораць Савецкі Саюз. У 1918 годзе, калі здабыла сваю незалежнасьць, мела 16 мільёнаў жыхароў: сёньня мае толькі 8 мільёнаў. Рэшта 8 мільёнаў гэта яе дань за імкненьне да незалежнасьці: зьнішчаныя адныя, выгнаныя іншыя. На выгнаньні беларусы сьвяткуюць сёньня сваю незалежнасьць зь верай, што настане дзень, калі іхняя нацыянальная справа атрымае справядлівую і заслужаную перамогу».

Гэты тэкст быў напісаны дырэктарам дэпартаманту Інфармацыі Гішпанскага Радыя на аснове дадзенага яму шырэйшага артыкулу, — які ён уважаў за даўгі, — і адсюль, у выніку яго інтэрпрэтацыі, усе ў ім недакладнасьці.

Важнасьць факту заключаецца ў тым, што гэта было адзінае дзяржаўнае радыё, што прысьвяціла ўвагу нашай нацыянальнай справе.

Скарыстаю гэтую нагоду, каб пажадаць Вам і ўсім суродзічам ад нас тут усіх вясёлых Вялікодных Сьвятаў. ХРЫСТОС УВАСКРОС!

*Яніна Сурвілла*

АЎСТРАЛІЯ — АЛЬБАНЫ

Сёлета ў нас аб'яднаньне беларусаў у Заходняй Аўстраліі: мы мелі ня штодзённае сьвята! Абыходзілі ўгодкі Акту 25 Сакавіка, 50-ці год Юбілей. А да таго яшчэ далучылася афіцыяльнае адчыненьне Беларускага Народнага Дому. —

Нас, беларусаў, асела ў Зах. Аўстраліі найменш колькасна чым у другіх частках. (Ад Сыднэю да Альбаны хіба так далёка як ад Менску да Еразолімы). — Але затое мы выказалі бадай дайвышэйшы ўзровень якасны, бо пастанову агульнага сходу мы крок-за-крокам давялі да памыснага канца!

А сталася гэта, дзякуючы глыбокай сьведамасьці нацыянальнай, якая выграбілася ў нас

падчас акупацыі нашае бацькаўшчыны праз палякаў, бальшавікоў, немцаў. На асаблівую падзяку за ахвярнасьць і працу заслужылі Сп. Сп. Мароз, Др. А. Бразоўскі, М. Раеўскі, Дуброўскі і Чабатар, а праца была настойлівая, бескарысная і пачэсная.



*Сябры Аб'еднаньня Беларусаў у Заходняй Аўстраліі ў дзень угодкаў 25 Сакавіка і адкрыцьце Грамадзкага Дому.*

Дом разьмешчаны на ўзгорку ў прыгожым месцы, недалёка станцыі тутэйшай чыгункі, пры вуліцы. У адной палавіне вялікі пакой на зборкі і адправы. У другой частцы — царква і памешканьне для сьвятара, такжа кухня, даволі немалая адпачывальня, ванна і ўсё іншае. А ля дома — немалы кусок на агарод, сад і кветнік.

Хаця нас тут і нямнога, мы даўжэйшы час утрымлівалі Ўладыку СЯРГЕЯ. Тады на большыя сьвяткі зьяжджаліся нашыя людзі, каб быць на багаслужбе, нат із-за 300 міль. Але вось два гады таму — дзеля няведамых прычын — Ўладыка нас пакінуў і дзесьці цяпер пасе больш «культурных авечак»... — Цяпер мы просім Уладыку ВАСІЛЯ, каб не пакінуў нас самых сіротамі і паслаў нам духоўнага апякуна!

Ўрачыстасьць мы адлажылі на 30-га Сакавіка, што выпала ў вольны дзень ад працы, у суботу. Зьехалася даволі гасьцей, ня гледзячы на мяшаныя сужэнствы, нават з далёкіх аколіц. (Тут адзначу, што выдаткі на пабудову, пяць тысяч даляраў, пакрылі дваццаць сяброў!).

Сабраньне адчыніў Старшыня Сп. Мароз уступным словам і адыграньнем Беларускага гімну. Пасьля хвіліны маўчаньня, пасьвячанай тым, што палажылі сваё жыцьцё на ахвярным кастры за славу Бацькаўшчыны у духу 25-га Сакавіка, сакратар згуртаваньня Сп. Раеўскі прачытаў зьмястоўны рэфэрат аб значэньні гэтага Акту. Далей выступалі сябры згуртаваньня, Дуброўскі, Чабатар, Др. Бразоўскі.

Дзеля таго што некаторыя сябры і госьці падавалі свае заўвагі і рады адносна структуры згуртаваньня, прышлося замацаваць гэта асобным пратаколам і падпісаць усё фармальна. Сп. Мароз у апошнім слове падзякаваў прысутным, даў справаздачу грашовую і асабліва дзякаваў учасьнікам, якія прычыніліся да пабудовы Народнага Дому. І заклікаў — ня гнуць галавы перад нашымі захопнікамі, а быць гордымі тым, што мы носім нашае дарагое імя «БЕЛАРУС»! І з гордасьцяй трымаць і несьці наш БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ сьцяг у моцных руках!

Уканцы быў адыграны наш гімн са сьпевам прысутных.

*

Аднак вось ужо сьцямнела. Пачалася сяброўская частка. Нашы дасужыя гаспадынькі прыгатавалі смачную ежіну і мы, найдалейшыя эмігранты, пры шклянцы піва, у добрай, прыязнай, сяброўскай атмасфэры, пад водгукі беларускіх ваенных і іншых песьняў, правялі час аж да ўсходу сонца, і гэты час нам ня здоўжыўся!

Калі нарэшце пры раннім сьвятле зьмеркавалі ўсе, што трэба раз'яжджацца, калі паўставалі з месцаў, дык нейк стала шкода гэтай прыгоднай «радзімы» — сябраў і суродзічаў пакідаць і разьвітывацца на даўжэйшы час. Але трэба вяртацца да сваіх варштатаў працы і занятказ. Астанецца аднак у душы жывая памяць вялікага Сьвята 25-га Сакавіка, 50-ыя ўгодкі Акту Незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны.

І так пайшлі мы з новымі сіламі, з новым натхненьнем, гартам і нязломнай воляй жыць і працаваць, маючы заўсёды ў памяці і сэрцы той слаўны АКТ нашае НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ!

Жыве Беларусь!

*Ч. Канстантыновіч*

*

РЭДАКЦЫЯ дзякуе Сп. Ч. К. за прысланую ведамку. Шкода, што спазьнілася ў наш сакавіковы нумар 2-гі (107)! І дзякуем, што наагул Спадар К. прысылае нам свае цікавыя лісты з самай далёкай часткі Аўстраліі — гэтага кантынэнту, дзе зіма бывае летам, дзе паўдзённыя вятры — халодныя, а паўночныя — гарачыя. — Усё там нязвычайнае і нязвыклае: людзі-нэгры чарнейшыя ад афрыканскіх, зьвяры носяць дзяцей у мяшкох на жываце, а нават дрэвы асаблівыя — не даюць ценю... То там — чорныя лебедзі, то птушка бяз крылляў, то зьвер з качыным носам! Словам, дзівосная прырода, але і там ведаюць і кажуць, што «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ»!

## САКАВІКОВЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ЛЁНДАНЕ

Беларуская калёнія ў Лёндане адзначыла вельмі ўрачыста 50-тыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сьвяткаваньне пачалося ў нядзелю 24-га сакавіка раніцай урачыстымі сьв. Літургіямі: для каталікоў у беларускай царкве сьв. Пятра і Паўла ў Марыян Гаўз, а для праваслаўных у украінскай царкве. Пасьля абеду ў той сам дзень Лёнданскі Аддзел Згуртаваньня Беларусоў у Вялікай Брытаніі ладзіў урачыстую акадэмію ў памешканьні беларускай школы імя сьв. Кірыла Тураўскага. Кіраваў акадэміяй Старшыня Аддзелу сп. Я. Сяўковіч, які, пасьля прывітаньня ўсіх прысутных, прачытаў прысланыя з нагоды сьвята пажаданьні ад беларускіх і чужынецкіх арганізацыяў і асобаў. Пасьля коратка прамовіў па ангельску Старшыня Ангельска-Беларускага Таварыства сп. А. Гэрбэрт, а сп. А. Лашук прачытаў зьмястоўны даклад на тэму дня. Другая частка акадэміі складалася з канцэрту падрыхтаванага вучнямі Школы сьв. Кірыла. Праграма канцэрту была вельмі багатая і разнаякая. Там былі выступленьні хору, аркестры, ансамблю дудак, акардыёну і дэклямацыі вершаў пераважна сучасных беларускіх паэтаў.

Пасьля акадэміі было прыняцьце, вельмі смачна падрыхтаванае спадарынямі А. Міхалюк, Э. Бутрымовіч, Тур і Сяўковіч.

У панядзелак 25-га Сакавіка Старшыня ЗБВБ сп. П. Навара і сп.-ня Навара зрабілі прыняцьце ў памешканьні Бэльгійскага Клюбу. На прыняцьці былі прысутныя Лёрд Гарлех, Лэды Бэрвоод, сябры ангельскага парляманту Гю Фразэр з жонкаю, Морыс Макмільлян з жонкаю, Антоны Кэршоў, Ніколяс Рыдлей, Джэймс Скот-Гопкінс, а таксама сп. А. Гэрбэрт, сп. Г. Пікарда і шмат іншых. Таксама быў прысутны першы сакратар В'етнамскай амбасады ў Лёндане, сп. Танг Тронг Нг'я з жонкаю, а таксама прадстаўнікі летувісаў, латышоў, эстонцаў, украінцаў, палякаў і сэрбаў.

Прамаўлялі сп. П. Навара і сп. А. Гэрбэрт. Група беларускіх хлапцоў і дзяўчат у нацыянальных строях раздавалі гасьцям брашуркі ў ангельскай мове, выданыя спэцыяльна з гэтай нагоды Згуртаваньнем беларусоў у Вялікай Брытаніі.

У той самы дзень ЗБВБ выслала брытанскаму прэм'ер-міністру Г. Вільсану мэмарыял, у якім між іншым гаворыцца: «Беларуская калёнія ў гэтай краіне не можа памінуць маўчаньнем умовы жыцьця ў нашай бацькаўшчыне, дзе нацыянальныя імкненьні нашых суродзічаў ёсьць бязьлітасна прасьледаваныя і дзе іхняя культурная спадчына нішчыцца сучаснай савецкай — расейскай уладай... Наша калёнія вітае ангельска-савецкія культурныя вымены, але адначасова зьвяртае ўвагу Ураду Яе Каралеўскай Вялікасьці на патрэбу большай рэпрэзэнтацыі ў такіх выменах беларускага народу і ягонай культуры».

Прэса досыць шырока адгукнулася аб беларускіх урачыстасьцях у Лёндане. Весткі аб іх замясьцілі нацыянальныя газэты «Таймс» і «Дэйлі Тэлеграф» (два разы), мясцовая газэта «Фінчлей Таймс» а таксама «Дзеннік Польскі».

## СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў ІНШЫХ АСЯРОДКАХ

Брадфардзкі і Манчастарскі аддзелы ЗБВБ ладзілі супольна сьвяткаваньне 50-тых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР у нядзелю 24-га сакавіка ў Беларускім Клюбе ў Манчастар. Раніцай адбылася сьв. Літургія, адпраўленая сьвятаром БАПЦ, а. Я. Абабуркам, а пасьля абеду — акадэмія. Даклад прачытаў Сакратар Галоўнай Управы ЗБВБ, сп. Я. Міхалюк, які спэцыяльна прыехаў з Лёндану. Артыстычную частку — мантаж вельмі ўдала наладзіў Старшыня Брадфардзкага Аддзелу ЗБВБ сп. Я. Калбаса. На сьвяткаваньні было прысутных вельмі шмат гасьцей, як беларусаў так і чужынцаў, сярод якіх былі прадстаўнікі мясцовай прэсы.

У Нотынгам сьвяткаваньне таксама адбылося вельмі ўдала ў нядзелю 31-га сакавіка. Ладзіў сьвяткаваньне спэцыяльны Арганізацыйны Камітэт пад кіраўніцтвам сп. М. Капача.

## ПАЭЗІЯ СВАБОДЫ

У чацьвер 4-га сакавіка ангельскі паэтычны часапіс »Маніфольд« ладзіў вечар паэзіі прысьвечанай правам чалавека. Кіравала вечарам сп-шня Вера Рыч, ведамая паэтка і перакладчыца твораў беларускіх паэтаў на ангельскую мову.

Большасьць аўтараў твораў прачытаных на вечары самі былі прасьледаваныя за свае пераканаьні і або заплацілі за іх сваім жыцьцём, або доўгімі цярпеньнямі. Прарок Ерамія, Баэціюс, Дантэ, Буніян — вось толькі некалькі прозьвішчаў аўтараў, выняткі чыіх твораў можна было пачуць на вечары. Былі таксама прачытаныя творы ўкраінскіх паэтаў Шэўчэнкі

і Франка і беларусаў П. Бахрыма, Я. Купалы і З. Бядулі — усе ў тлумачэньні сп. шні Веры Рыч. Па мастацку чыталі Д'яна Ольсэн, Элізабэт Анн Гарвэй і Дж. Нікольсон. Вечар адбыўся ў памешканьні Шкоцкай карпарацыі ў залі Бэрнса.

*

ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ — 50 год жанімства Сп. Васіля ВАРГАНА і ягонай жонкі Сп-ні Альжбеты абыходзілі дня 12-га траўня 1968. Урачыста Свв. Літургія і Малебен быў адслужаны а. Архімандрытам Львом Гарошкай у Марыян Гауз. — Паважаным Юбілярам жадаем МНОГАЯ ЛЕТА!

*

З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ — АМЭРЫКА:

У нядзелю 12. V. 1968 ў салі праваслаўнага Сабору ў Брукліне адбыўся ўрачысты абед з нагоды дня сьв. Кірылы Тураўскага і з нагоды развітаньня з прэз. М. Абрамчыкам.

Я. Дастойнасьць *Уладыка Васіль*, вітаючы Біскупа Ч. Сіповіча, гаварыў аб хрысьц. еднасьці. Успомніў аб спатканьні Паўла VI-га з Патр. Атэнагарам.

*Сп.* **Абрамчык** падкрэсьліў значэньне палітычнай дзейнасьці, якая павінна лучыцца з працай навуковай і рэлігійнай. *Сп. Курыла*, старш. БАЗА, гаварыў аб патрэбе інфармаваньня сьвету — асьцярожна, але праўдзіва. — На яго думку сталася нядобра, што брашура, выданая Згуртаваньнем Беларусаў В. Брытаніі з нагоды 50 год БНР, ня ўспомніла найвялікшай арганізацыі ў Зл. Шт. Амэрыкі БАЗА.

*Бп. Сіповіч* перадаў прывітаньне ад Беларусаў у Эўропе і заклікаў прысутных, каб, паміма розных цяжкасьцяў, крочылі наперад згодна з запаветам Хрыста і з нашымі беларускімі патрэбамі.

Прамаўлялі такжа *Сп. Русак, Сп. Кунцэвіч* і *Сп-ня Орса.*

Зарысавалася згоднасьць думак у духу сапраўднага патрыятызму: да гэтага асабліва прычынілася прысутнасьць рэдкіх гасьцей з Эўропы, Прэз. БНР Абрамчыка і Б-па Ч. Сіповіча, Апост. Візытытара Беларусаў, — так што некаторыя прамоўцы гэтае скромнае спатканьне называлі гістарычным.

Гаспадаром сабраньня быў Паважаны а. Васіль Кендыш, а да стала услугоўвалі беларускія жанчыны.

Урачысты абед закончыўся малітваю і нашым бел. нацыянальным гімнам.

*Прысутны Ч. Д-я*

## З беларускае прэсы

ГОЛАС ЦАРКВЫ: № 27, Вялікдзень, 1968, год. 14. Часап. Правасл. Беларусаў.

Архіпастырскае Пасланьне — падпісалі: Сьм. Архіеп. СЕРГІЙ, Сьм. Архіеп. ВАСІЛЬ, Сьм. Еп. АНДРЭЙ, Сьм. Еп. МІКАЛАЙ.

ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ ў Б.А.П.Ц.: 15-га лютага адбылася хіратонія Уладыкі АНДРЭЯ, а 10-га сакавіка хіратонія Уладыкі МІКАЛАЯ. — Абедзьве хіратоніі адбыліся ў Адэляйдзе, Аўстралія, дзе прабывае Першаіерарх Архіеп. Сергій. 15. II. 1968 ў грэцкім саборы адбылася хіратонія ў епіскапа Пратаіерэя Аляксандра (манаскае імя) АНДРЭЙ у часе Літургіі, якую адправіў Арх. Сергій і еп. сэрбскі Дымітры. Было праведзена нарачэньне еп. Андрэя ў епіскапа Гарадзенскага, Наваградзкага і Кліўлендзкага.

10-га сакавіка была хіратонія Архімандрыта Мікалая ў епіскапа Турава-Пінскага і Тарантскага. У гэтай хіратоніі прынялі ўдзел 4 іерархі: Архіепіскапы Сергій і Васіль, украінскі еп. Данат і сэрбскі Дымітры.

Пры гэтай нагодзе Рэдакцыя «Божым Шляхам» віншуе нова-пастаўленых епіскапаў АНДРЭЯ і МІКАЛАЯ, жадаючы ім ад Госпада Бога ўсяго найлепшага.

БЕЛАРУС: № 130, Люты і № 131, Сакавік. Нью Ёрк—Торонто. Юбілейны № 131 — 25 САКАВІКА, 1918—1968. ПАЎСТАГОДЗЬДЗЕ АКТУ БНР.

У артыкуле «Пад ціскам русыфікацыі» апісана, як украінскія артысты выступалі ў Менску на сцэнах з расейскімі песьнямі, вершамі, рамансамі... А ўжо-ж найбольш характэрна, што 29 верасьня ў Беларускай дзяржаўнай фільмгармоніі... Рыгор Пятрэнка чытаў беларускіх паэтаў — Танка, Куляшова і інш. ...у расейскай мове». — Такога паніжэньня, ганьбы і стыду для ўкраінцаў і беларусаў ня мог-бы выдумаць ніхто іншы, як толькі маскоўскія апякуны!!!

Прытым Беларусь засыпана кніжкамі белар. паэтаў у перакладзе на рас. мову, а самыя пераклады — недакладныя і неахайныя. А ў арыгінале Беларусь ня можа дапрасіцца сваіх кніжак, ні календароў!

ЗЬНІЧ: Год XX, Студзень-Красавік, 1968, № 96.

БЮЛЕТЭНЬ Царк. Рады Правасл. парахвіі ў Клевэленд. № 14/16. Красавік, 1968.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: №№ 5-100, 6-101, 7-102 і 8-103 — 30. IV. 1968. Агляд савецкага друку. Лік установаў і вучняў: Акадэмія навукаў, 28 вышэйшых, 126 сярэдніх, 141 тэхнічных і 12,394 агульна-адукацыйных школаў; а ўсіх вучняў 2 мільёны 125 тысяч! Настаўнікаў 113,500 чалавек. — Гэта лік вельмі пацяшаючы, толькі на жаль перавага школаў расейскіх і брак беларускіх падручнікаў і кніжак да чытаньня.

СЯЎБІТ: 1968, Травень-Чэрвень, № 63, Вяліка-Літоўскі (Беларускі) двумесячнік, Нью Ёрк. Апошні арт. а. Я. Тарасэвіча: Так ясна і выразна даказвае аўтар існаваньне Бога, што чытаецца зь вялікай прыемнасьцяй! І кожны скажа, што трэба, каб гэты аўтар пісаў уласна п р о з а й , што яму ўдаецца. —

ЛІТВА: Навуковы Часапіс, Ліпень-Сьнежань, 1967, № 2. Бачын 280. — Гэтая гістарычная праца мае вялікую вартасьць: дае масу падрабязнасьцяў і робіць высновы, якіх не спатыкалі мы ў чужаземных аўтараў. У гэтым нумары апрацаваны пэрыяд часу дынастыі Ягельлёнаў. Трэба выразіць удзячнасьць аўтару за такую мазольную і карысную нацыянальную працу.

## *Для цікавасьці і навукі*

### «НОВАЕ Ў АТЭІСТАЎ ...»

Лектар гаварыў аб посьпехах астраномаў і фізыркаў, аб тайніцах далёкіх зорак і мікрасьвету (найменшых частках). Слухалі ўважна. А пасьля лекцыі пажылая жанчына ў захапленьні ўсклікнула: «Дык вось як хітра ўсё ўладжана. А кажуць яшчэ — Бога няма!» ... (З атэістычнага часапісу «Навука і Рэлігія», № 3, 1968, бач. 61).

УВАГА РЭДАКЦЫІ: Тут цікава, што адважная жанчына сказала глыбокую праўду і што самі атэісты гэта надрукавалі бяз ніякага камантара!

### ГОМЭР І САКРАТ

Найвялікшы паэт і найглыбейшы мудрэц ня ўмелі ні чытаць, ні пісаць! Гэта кажуць аб Гомэру і Сакрату: затое Гомэр умеў дыктаваць свае паэзіі, а Сакрат умеў высказываць свае думкі, якія пасьля запісвалі ягоныя вучні.

### САКРАТ

Пытаў адзін Сакрата, якую выбраць жонку. А ён сказаў: «Шукай такой, аб якой ніхто нічога не гаворыць — ні добрага, ні благога!»

Іншы пытаў, ці варта жаніцца?

Яму сказаў Сакрат: «Як хочаш, бо ўсёроўна пасьля будзеш шкадаваць!»

*

Пыталіся вучні ў Сакрата, чаму ён — такі мудры, а ўзяў жонку (Ксантыпу) — самую найбольшую злосьніцу?

Сакрат адказаў: «Невялікая мудрасьць жыць з добраю жонкаю, але вось з такою ...»

### ЖАН ЛЯФОНТЭН

Слаўны байкапісец Ляфонтэн аднойчы пры працы сядзеў і горка плакаў. Надыйшла жонка і пытаецца, якая прычына? — А муж паказвае ёй разьдзел новай повесьці, у якой жалосна было напісана аб няшчасных дваіх маладых, што аніяк не маглі ўладзіць жаніміства!

Тады жонка таксама разжалілася і пачала плакаць, а пасьля кажа: «Дык чаму ты іх не пажэніш?»

«Не магу! казаў Ляфонтэн, бо пішу толькі яшчэ І-ы том повесьці, а што-ж буду пісаць у ІІ-ім таме?» («Цікаві Бувальшчыны», Грыг. Грыгор'еў).

### ПОШУКІ

1) Протоіерэй Пятро ПАРОМЕНСКІ шукае свайго сына Дзімітрыя ПАРОМЕНСКАГА нар. ў 1924 г. ў в. Некасецк Мядзельскага р-ну Менскае вобл., які меў-бы быць у 1948 г. у Марсэі ў Францыі. Просіцца пісаць на адрас рэдакцыі.

2) Жонка і дачка Сьвятлана шукаюць свайго мужа і бацьку Ўладзіміра САМКОВІЧА, сына Юліяна, народж. ў Нясьвіжу. У 1949 годзе прабываў ён у Вялікай Брытаніі, пасьля меў выехаць у Цэйлён. — Весткі слаць на адрас «БОЖЫМ ШЛЯХАМ».

# Нэкралёг

## ПАМЁР ГЕНЕРАЛ ФРАНЦІШАК КУШАЛЬ, НЯЎТОМНЫ БАРАЦЬБІТ ЗА НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСЬ

25 траўня 1968 адышоў у вечнасьць у гор. Рочэстэр, у Злуч. Штатах Амэрыкі, генерал Францішак Кушаль. Пакінуў у вялікім смутку жонку Натальлю, ведамую слаўную паэтку, пад прозьвішчам Арсеньнева і сына Ўладзіміра.



Францішак Кушаль нарадзіўся ў вёсцы Першаі, Валожынскага павету 16 лютага 1895. Народную школу скончыў у Івянцы. У часе першае сусьветнае вайны студыюе ў афіцэрскай школе.

Пасьля ўстанаўленьня Беларускай Незалежнай Рэспублікі 25 Сакавіка 1918, афіцэр Кушаль належыць да Беларускай Вайсковай Камісіі. І ад таго часу ён не пакідае змагацца, як жаўнер і як грамадзкі дзеяч, за незалежную Беларусь.

Калі Беларусь разьдзялілі яе суседзі, г. зв. рыскім дагаворам, Кушаль знайшоўся ў Заходняй яе частцы пад Польшчай. Не зважаючы на выдатныя вайсковыя здольнасьці і на высокую эдукацыю, Фр. Кушаль — дзеля сваей нацыянальнай прыналежнасьці — цэлы час астаецца ў польскім войску паручнікам.

Пасьля выбуху польска-нямецкай вайны Кушаль трапляе з іншымі польскімі жаўнерамі і ахвіцэрамі, у маскоўскую турму, дзе на Лубянцы трымаюць яго разам з ген. Андрэсам. Было гэта ў 1940—41.

З Масквы перад самым пачаткам бальшавіцка-нямецкай вайны НКВД адаслала Кушаля ў Валожын, каб мясцовая тайная паліцыя разгледзіла яго справу. Аднак неспадзяваны ўдар немцаў на бальшавікоў разладзіў далейшыя зьдзелкі савецкае паліцыі і Кушаль стаўся вольным.

Праз цэлы час нямецка-бальшавіцкай вайны працуе ён у грамадзкай і ваеннай дзелянках. Калі толькі прышла магчымасьць, Кушаль пачаў арганізаваць беларускае войска, шыкаваць афіцэрскія кадры.

Уздым нацыянальнага адраджэньня і ахвярнасьць Кушаля даходзілі да гераізму. Пры нязвычайна цяжкіх абставінах утварылася 50-тысячная беларуская армія.

У 1945 ў Баварыі беларуская армія на чале з ген. Кушалям здала аружжа амэрыканцам.

Наступаюць цяжкія гады «дэпісаўскай» валакіты. Калі аднак у лягерах у Нямеччыне настае час, што можна ня толькі жыць, але і працаваць для свайго народу, Кушаль разам з жонкаю-паэткаю стаіць у першых радох.

У 1950 ў чэрвені пераяжджаюць Кушалі ў Злуч. Штаты Амэрыкі. Зямля Вашынгтона, з сваім нябывалым росквітам і багацьцем, ахвяравала нова-прыбыўшым свабоду, але не зрабіла іх вольнымі ад клопатаў і бедаў. Асабліва цяжка там уладзіцца людзям старэйшым інтэлігентам.

Сям'я Кушаляў перш асела ў Брукліне. Як муж таксама і жонка былі змушаныя прыймаць цяжкія і нярэдка ўніжаючыя варункі працы, каб толькі зарабіць на жыцьцё і каб падтрымаць сваім грошам беларускія арганізацыі.

З Брукліну перабраліся Кушалі ў Нью Ёрк-Мангэтан, а адтуль год таму назад у горад Рочэстэр, дзе і памёр генерал, прыняўшы сьвятыя тайны Каталіцкае Царквы.

Францішак Кушаль паходзіў з сям'і, у якой трывала традыцыя прасьледу за рэлігію. Дзед генэрала за абарону каталіцкага касьцёла быў сасланы царскай уладай ў Сібір і звольнілі яго толькі падчас рэвалюцыі 1905.

Хто бачыў памёршага генерала, мог заўважыць на ягоным твары заўсёдную павагу, чэснасьць; адначасова на грудзях яго красаваўся бел-чырвона-белы нацыянальны сьцяжок дый іконка Божае Маці. Гэтую іконку, бачна з бронзы, у бізантыйскім стылі, трымаў з сабой гене-

рал як годную пашаны рэліквію. Яе калісьці выараў на полі ягоны прадзед.

Якая дзіўна прыгожая сімволіка! — Сын беларускай зямлі, пахаваны ў няведамым яму перад тэтым Рочэстэр, забраў з сабой знайдзеную яго прадзедам іконку Божае Маці.

*

Паховіны генерала адбыліся скромна, але достойна, як ён на гэта заслужыў.

Раніцай пры ўваходзе ў касьцёл сьв. Маргарэты цела памёршага ўрачыста спаткалі каталіцкія сьвятары на чале з Біскупам Ч. Сіповічам, Апост. Візытатарам Беларусаў. Прыбыла жонка генерала з сынам і ўнукамі, прадстаўнікі розных беларускіх арганізацыяў, што прыбылі спэцыяльна ў Рочэстэр.

Калі труна, накрытая бел-чырвона-белым сьцягам, была прынесена бліжэй да аўтара, адзін з сьвятароў гэтага касьцёла адправіў сьвятую Літургію, падчас якой Біскуп Ч. Сіповіч слухаў споведзі вернікаў. Пасьля Эвангельля тойжа сьвятар сказаў глыбокае зьместам казаньне.

Пасьля Літургіі абрад г. зв. абсалюцыі правёў Бп. Сіповіч у асысьце двух сьвятароў, ён-жа адвёў на могілкі, дзе адбыліся паховіны. Усе малітвы чыталіся ў беларускай мове.

Ля труны пачэсна трымалі прадстаўнікі белар. арганізацыяў сьцягі беларускія і амэрыканскі. Прамаўлялі Бп. Сіповіч, сп. А. Шукелайць ад імя Рады БНР, сп. Ул. Курыла ад імя БАЗА і беларускіх вэтэранаў і сп. Русак.

Песьняй «Сьпі пад курганам» была закончана сумная ўрачыстасьць на могілках.

Прыгожы сьцяг, першы беларускай вайсковай арганізацыі ў Злуч. Штатах, быў перададзены жонцы памёршага.

Пасьля адбыўся традыцыйны абед-хаўтуры: прамаўлялі Бп. Ч. Сіповіч і сп-ня Раіса Жук-Грышкевіч ад імя беларускіх арганізацыяў у Канадзе.

*

Хто знаў генерала Фр. Кушаля, на вестку аб яго сьмерці цяжка засумуе, а і не адзін горка заплача так, як блізу ўсе мы плакалі на магільніку ля яго труны.

Адышоў ад нас вялікі патрыёт, няўтомны барадзбіт за нашую волю і долю, Чалавек вялікае душы і культуры, які ўмеў цешыцца з асягненьняў у беларускім жыцьці, які ня лічыўся зь ніякімі ахвярамі дзеля Бацькаўшчыны. Быў ён такжа шчырым хрысьціянінам і глыбока веручым. Жадаў еднасьці свайму народу на рэлігійнай ніве. Ён добра ўмеў аддзяліць людзкія слабасьці ад запраўднай справы. Быў вельмі дыскрэтны, таму аб слабасьцях прамоўчваў, а самую справу заўсёды бараніў. Ён блізу да апошняй хвіліны не раставаўся з кніжкай, з родным друкаваным словам.

Такім годным і заслужаным людзям — чэсьць на заўсёды!

*Др. Ч. Д.*

# МАЯ ВЕРА

*Я веру у Імя Адзінага Бога,*
*У Сына Яго і у Духа Сьвятога —*
*у Тройцы Сьвятой.*

*А БОЖАЕ ІМЯ сьвяціцца адвеку —*
*Стварыцеля сьвету, зямлі й чалавека,*
*Расьліны і кажнай істоты жывой.*

*Я веру, што кажны з памёршых устане, —*
*На Суд Божы прыйдзе:*
*Хто будзе гатовы,*
*Той сьмела ў Аблічча Ягонае гляне,*
*А грэшныя долу пахінуць галовы.*

*Мінецца і роскаш і шчасьце зямное,*
*Што скарбы-багацьце дарэмна збіралі.*
*Для меншых і слабых — у Імя Сьвятое —*
*Ні хлеба, ні кубка вады не падалі. —*
*З сабой-жа тудэю ня возьмуць нічога ...*

*Бог скажа нягодным: «Ідзіце ў бяздоньне!*
*Ня ведаю вас, вы — скупыя няверы —*
*Ні стада маё, вы служылі мамоне;*
*А ў небе для вас зачыніліся дзьверы».*

*І безьліч анёлаў сьвяценькіх там стане:*
*Судзіны із золата будуць у іх:*
*Малітвы і сьлёзы ў іх будуць сабраны —*
*Нявінна прыгнечаных — верных усіх.*

*Хто Імя Сьвятога ня зрокся ніколі,*
*З братамі остаткі ў нядолі дзяліў:*
*У карцар замкнёны, ці ў горы, ў няволі, —*
*Малітву сьвятую там ціха тварыў.*

*Хрыстос скажа верным: «Ка Мне прыступіце!*
*Прыйму ў Валадарства святое Айца, —*
*У шчасьце сьвятых — у сям'ю увайдзіце, —*
*Там радасьці верных ня будзе канца ...»*

*Н. Н-скі*

# ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

## «МАЛІТВА ЛЕНІНА»

Увага Рэдакцыі: Усяго пісьма прысланага ў Рэдакцыю мы зьмясьціць не маглі, але даём тут вынятак, як цікавы жарт:

«Малітва Леніна»

«. . . Магільшчык Расеі Абмурзай Ленін паказаў народам усяго сьвету, што і ён сам моліцца Богу. На карце Расеі напісаў пачатковыя літары сваёй малітвы: «Б.С.С.Р.» Што азначае: «Божа, Спасі Савецкую Расею!» Гэта можа зразумець кожны чалавек, які ўмее чытаць . . .»

## МЕНСК І МАСКВА

ФАБІЯН: — У Празе Чэскай Дубчэк сказаў, што чэхі і славакі дальш не дадуцца, каб Масква вадзіла іх за нос!

КАССІЯН: — А гэта для нас ня так цікава: нам важней, якія адносіны будуць між Менскам і Масквой?

Ф.: — О, ў Менску таксама! Беларускія правадыры адказаліся ад такога хамства, каб Масква вадзіла іх за нос: «Досьць, кажуць, гэтага было ў 50-ці гадах рэвалюцыі!»

К.: — Ну-ну, вось дык цікава! Як-жа гэта?

Ф.: — А так! Цяпер тактыка зьмянілася на лепшае: найперш іх ласкава заклікаюць у Маскву. А ў Крамлі беларускіх дэлегатаў далікатна і пасьпешна разьдзяваюць да астатка і ачышчаюць ім кяшэні. А тады, усклаўшы вожыкавы рукавіцы, старанна мыюць ім галовы, націраюць вушы і сьціскаюць за бакі. А ўканцы, адвітаўшы іх па расейску, як мілых братоў, спускаюць са сходаў праз галоўныя дзьверы, ветліва памагаючы каленам.

К.: — О, гэта-ж усё ладзіцца па таварыску!

Ф.: — Так-так! І нашыя правадыры з радасьцяй лятуць дамоў, як ашалеўшы . . .

## АПЭРАЦЫЯ СЭРЦАЎ І «ТРОЙКА»

У Маскве разважалі, што рабіць? Вось Амэрыка і Англія практыкуюць замену сэрцаў, а савецкія лекары і не прабуюць: стыдна!

Засядае «Высокая Тройка»:

*Брэжнеў:* — Я ўжо загадаў нашым лекарам, каб распрацавалі новую сыстэму, і яны кажуць, што ў іх усё прыгатавана: могуць масава замяняць сэрцы і зара перагоняць Амэрыку.

*Касыгін:* — Вельмі пахвальна! Бо ў нас гэтулькі марнуецца сэрцаў: на дарогах, у фабрыках, у капальнях.

*Падгорны:* — А я маю высокую ідэю — замяняць сэрцы шкодным украінцам і беларусам на чыстыя расейскія, на атэа-камуністаў . . .

*Брэжнеў:* — Дзякую! Гэта магчыма: яны нават і ведаць ня будуць, — ложным у шпіталь, даём на сон, трынім нашае сэрца і выпускаем новага чалавека, які будзе любіць Расею і Сав. Саюз.

*Усе:* — Брава, брава!

Пачалі абыймацца і цалавацца дый запілі новы праект аздараўленьня Савецкага Саюзу.

## *ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ*

*Вінцук Адважны.*

### ДРУЖБА І СЛУЖБА, (Байка).

*Жыў раз мядзьведзь з ваўком у пары —*
*(Вада з агнём у самавары):*
*Дзень цэлы ў лесе палявалі,*
*А ўвечар балявалі.*

*Мядзьвець, зьвяром адважным быўшы,*
*Найперш ляся задзёр, злавіўшы:*
*Ну, елі мяса, кроў пілі, —*
*Шчасьлівыя былі!*

*Мядзьведзь казаў: «Ваўчок, ці чуеш, га?*
*Твая чарга»!*

*

*І воўк быў сьмелы — не малыш! —*
*Упаляваў на вечар ... мыш. —*

**А**, *як мядзьведзь яго тут лае,*
*Воўк кажа: «Мышка, хоць худая,*
*Хоць невялічкі ейны рост, —*
*Затое — доўгі хвост ! ...*

*Мядзьведзь яму: «Як мыш зьясі,*
*Хвастом тым смачна закусі!»*

*

*Рэдактар з Чытачом працуе ў пары:*
*(Агонь з вадой у самавары). —*

*А ёсьць Чытач, што — (ані зблізку) —*
*За сто гадоў аддасьць падпіску!*

*

*УВАГА!*

*Рэдактар ахвярue гэтую байку мілым Чытачом, якія дасюль яшчэ не аддалі (ані хвосьціка!) падпіскі ...* *Я. Г.*

*

*Хто чытае, а не плаціць,*
*Сябе гэтым не збагаціць, —*
*Толькі дарма гонар траціць!*

## З Ь М Е С Т




Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.